
Арлянскі цэнтр культуры➔3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714


Успаміны ў Меляшках➔9

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 45 (3261) Год LXIII Беласток, 11 лістапада 2018 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# Поспехі белліцэя

**Амаль усе выпускнікі Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання імя Браніслава Тарашкевіча ў Бельску-Падляшскім паспяхова справіліся з матуральнымі экзаменамі і з кастрычніка пачалі вучобу ў вышэйшых навучальных установах, у тым ліку на інфарматычных спецыяльнасцях. Навука ў ліцэі адбываецца на асабліва высокім узроўні. Нядаўна Бельскі белліцэй апынуўся на трэцім месцы ў Падляшскім ваяводстве ў рэйтынгу «IT Школа».**

— У інтэрнэтнай адукацыі па праграме «IT Школа» вучні нашага ліцэя прымаюць удзел ужо сёмы год. За кожным разам наш белліцэй у рэйтынгу па такой адукацыі займаў высокае месца ў першай дзясятцы школ у ваяводстве. Раней у такіх занятках прымалі ўдзел вучні класаў з інфарматычным ухілам, а ўжо другі год да праграмы «IT Школа» прыступаюць усе вучні першых класаў нашага ліцэя. Цяпер у рэйтынгу «IT Школа» займаем трэцяе месца ў ваяводстве. Такіх поспехаў няма ў ніводнай школе ў Бельскім і Гайнаўскім паветах. Такога поспеху дабіліся нашы вучні сваёй ангажаванасцю і сістэматычнай, пастаяннай працай падчас курсаў у рамках інтэрнэтнай адукацыі па праграме «IT Школа». Такой адукацыяй у цэлым займалася каля 300 нашых вучняў і частка з іх паступіла ў вышэйшыя навучальныя ўстановы на інфарматычныя спецыяльнасці. Пасля частка з іх стала працаваць інфарматыкамі-праграмістамі ў розных суполках, так як наш выпускнік Павел Шэшка, — стаў распавядаць настаўнік інфарматыкі ў Бельскім белліцэі Славамір Нядзвецкі, школьны апякун адукацыі «IT Школа».

Праграма «IT Школа», за рэалізацыю якой адказвае Навуковая акадэмічная камп'ютарная сетка, была створана для асоб ахвотных павысіць свае кампетэнцыі ICT шляхам самаадукацыі ў адкрытай сістэме няспыннай вучобы. Праграма накіравана на асобы, якія толькі пачынаюць знаёміцца з інфарматыкай, як і да тых, якія ўжо займелі асноўныя веды па інфарматыцы. У падрыхтоўцы матэрыялаў да лекцый і заняткаў праграмы «IT Школа» прымаюць удзел лепшыя польскія выкладчыкі інфарматыкі з лепшых польскіх і замежных акадэмічных навучальных устаноў.

— Курсы ў рамках праграмы «IT Школа» даюць ліцэістам магчымасць пашырыць умеласці, якім вучацца на занятках інфарматыкі ў нашай школе. Удзельнікі такіх курсаў здабываюць веды і ўмеласці па праграмаванні, камп'ютарных сетках і графіцы, мультымедыях, а таксама па базе даных, аўтарскіх правах, бяспечнасці ў кіберпрасторы і іншых дзялянках. Вучоба ў «IT Школе» канчаецца атрыманнем дыплома заканчэння адукацыі ў Варшаўскай вышэйшай школе інфарматыкі. Пасля атрымання такой адукацыі вучні больш грунтоўна цікавяцца інфарматыкай і прадаўжаюць вучобу на інфарматычных спецыяльнасцях у вышэйшых навучальных установах. Выпускнікі інфарматычных курсаў ва ўзнагароду маюць магчымасць бясплатна карыстацца лепшымі камерцыйнымі праграмамі. У бягучым школьным годзе некаторыя першакласнікі ўжо на працягу двух месяцаў вельмі добра справіліся з паасобнымі курсамі ў рамках праграмы «IT Школа». Напрыклад, Аляксандра Рагоза справілася з курсамі на сто працэнтаў. Гэтая працавітая і цярплівая вучаніца першапачаткова некаторыя курсы здала на 40-50%, аднак пасля падцягнулася. Дамініка Календа таксама з самага пачатку вельмі добра спраўляецца з курсамі, — сказаў Славамір Нядзвецкі.

— Я вельмі рады поспеху нашых ліцэістаў, дзякуючы чаму штогод наш белліцэй знаходзіцца ў першай дзясятцы лепшых школ у Падляшскім ваяводстве ў рэйтынгу праграмы «IT Школа». Нядаўна былі абвешчаны новыя вынікі рэйтынгу і наша школа апынулася ажно на трэцім месцы. Гэта заслуга нашых вучняў і настаўніка інфарматыкі Славаміра Нядзвецкага. Ён арганізуе многа пазаўрочных заняткаў для вучняў, між іншым па адукацыі «IT Школа» і ў рамках Акадэміі «Cisco», — сказаў дырэктар Бельскага белліцэя Андрэй Сцепанюк.

Нядаўна ў Бельскім белліцэі ўжо сёмы раз была адкрыта дзейнасць Мясцовай акадэміі ў праграме «Cisco Networking Academy».

— У ліцэі арганізаваў я заняткі Мясцовай акадэміі камп'ютарнай сеткі «Cisco». Няма рэйтынгаў па гэтай актыўнасці, але ёсць знаёмства з цікавымі інфрмацыямі наконт камп'ютарных і інтэрнэтных магчымасцей і можна прымяняць здабытыя веды на практыцы, — заявіў настаўнік інфарматыкі і заадно інструктар Акадэміі «Cisco» Славамір Нядзвецкі. — Арганізуем нашым вучням курсы «IT Essentials» у рамках пазаўрочных заняткаў. Ахвотныя ліцэісты бясплатна прымаюць удзел у абучэнні і пасля яго завяршэння, калі становяцца справяцца з экзаменам, атрымаюць афіцыйны сертыфікат CISCO. Дапаможныя матэрыялы даступныя на англійскай і польскай мовах, курсы праводзяцца з выкарыстаннем мультымедыйных тэхналогій, а экзамены прымаюцца на экзаменацыйным серверы ў Злучаных Штатах Амерыкі. CISCO, як сусветны лідар у сферы сетак і лічбавізацыі, хоча адукаваць будучых спецыялістаў па справах вырашэння сусветных праблем. З моманту свайго ўзнікнення ў 1997 годзе праграма «Cisco Networking Academy» памагла звыш шасці мільёнам курсантаў на свеце паспяхова падрыхтавацца да прафесійнай працы.

Удзельнікі курсаў «IT Essentials» вучацца будове, зборцы і канфігурацыі персанальнага камп'ютара, устаноўкі апаратыўнай сістэмы і вырашэнню асноўных праблем, звязаных з працай камп'ютара, яго абслугоўваннем і праграмаваннем.

— Я вяду таксама заняткі па курсах «Інтэрнэт-рэчаў», знаёмлю з новымі магчымасцямі інтэрнэту. Зараз да сеціва падключаны мабільнікі, камп'ютары, тэлевізары, халадзільнікі, маразільнікі і іншая бытавая тэхніка. Колькасць спалучаных з інтэрнэтам прылад пастаянна расце. Гэтаму спрыяе паляпшэнне матэрыяльнага статусу людзей. Мяркуецца, і аб гэтым я размаўляю падчас курсаў «Інтэрнэт-рэчаў», што да інтэрнэту будуць падключаны ў будучыні намнога больш рэчаў, напрыклад, боты ці вопратка, дзякуючы чаму можна будзе даведацца аб тэмпературы і іншых прыкметах надвор'я, калі ў гэтай вопратцы будзем хадзіць, — удакладніў Славамір Нядзвецкі.

Дырэктар белліцэя Андрэй Сцепанюк напомніў таксама аб выніках апошніх матуральных экзаменаў, якія былі прыкметна лепшымі ад вынікаў у іншых звышгімназічных школах у Бельскім павеце і ад сярэдняй у нашым ваяводстве і ва ўсёй краіне.

— Я рады, што за выключэннем трох асоб усе нашы выпускнікі паспяхова справіліся з матуральнымі экзаменамі, што саставіла колькасць здадзеных матуральных экзаменаў на ўзроўні 96,51%. Нашы выпускнікі, паступіўшы на розныя спецыяльнасці вышэйшых навучальных устаноў, пачалі ўжо вышэйшую адукацыю. У мінулым школьным годзе нашы вучні дабіліся многіх поспехаў на цэнтральным узроўні ў агульнапольскіх алімпіядах, а цяпер вучні зноў пачынаюць падрыхтоўку да прадметных алімпіяд і конкурсаў, — заявіў дырэктар Андрэй Сцепанюк.

У школьным 2017/2018 годзе лаўрэатам Алімпіяды па беларускай мове стаў Максім Фіёнік, званне фіналістаў гэтай алімпіяды здабылі Юсцінія Якубюк, Уршуля Паўлючук, Інеса Гапанюк і Лукаш Філіманюк, а рыхтавалі іх настаўніцы беларускай мовы Анна Бжазоўская і Яўгенія Таранта. Амаль такіх поспехаў, як па беларускай алімпіядзе, бельскія белліцэісты дабіліся па Праваслаўнай алімпіядзе рэлігійных ведаў, якіх рыхтавала настаўніца Эва Астапковіч. Звання лаўрэата праваслаўнай алімпіяды дабіўся Міхал Казлоўскі, а яе фіналістамі сталі Іаанна Кобус, Караліна Кадлубоўская і Пётр Свідэрскі. Аляксандра Алексюк і Юсцінія Якубюк, якіх рыхтавала настаўніца Аліцыя Нідаэ, сталі фіналістамі Алімпіяды па расійскай мове. Альжбета Кавальская, якую рыхтавала настаўніца Ірэна Траянчук, здабыла званне фіналісткі Алімпіяды экалагічных ведаў. У Алімпіядзе ведаў аб бяспечнасці і абароназдольнасці лаўрэатамі сталі Аляксандра Калішук і Магдаліна Леанкевіч, званне фіналіста здабыла Юлія Ваўрысюк, а да алімпіяды падрыхтаваў іх настаўнік Уладзімір Вавульскі. Гэты сам настаўнік падрыхтаваў таксама калектыў бельскіх белліцэістаў у саставе Аляксандра Калішук, Магдаліна Леанкевіч і Якуб Верамяюк да Алімпіяды Салідарнасці «Дзве дэкады гісторыі», які — як лепшы калектыў Падляшскага ваяводства — заняў восьмае месца на цэнтральным узроўні.

— Вельмі важнай з'яўляецца падрыхтоўка да матуральных экзаменаў, вынікі якіх, асабліва ў пашыранай формуле, будуць вырашаць, на якія спецыяльнасці ў вышэйшых навучальных установах нашы выпускнікі будуць маглі паступіць. Аб гэтым вырашае вучоба з першага па трэці клас, — заявіў дырэктар Бельскага белліцэя Андрэй Сцепанюк.


Дырэктар Андрэй Сцепанюк


Настаўнік інфарматыкі Славамір Нядзвецкі

Тэкст і фота
**Аляксей МАРОЗА**





## „Антысаветчына” і „антыбеларусчына”

Па беларускай інтэрнэт-прасторы пачаў гуляць запіс, на якім чатырнаццацігадовым навучэнцам беларускай навучальнай установы настойліва рэкамендуюць уступаць у БРСМ. Аргументы за ўступленне настаўніца прыводзіць па-даросламу моцныя, канкрэтныя, называючы адмову ўступаць у арганізацыю правапераемніка ленінскага камсамола напачатку „антысаветчынай”, а пасля і „антыбеларусчынай”. І не зважае на меркаванні бацькоў навучэнцаў, якія супраць таго БРСМа. І папярэджвае яшчэ, што адсутнасць пасведчання БРСМ можа негатыўна паўплываць у будучым пры паступленні ў вышэйшыя навучальныя установы Беларусі.

Па сабе ведаю як гэта можа быць. У свой час, як я стаў савецкім піянерам, мне на карак як частачку савецкага сцяга пачапілі чырвоны піянерскі гальштук. І вось тады, насуперак сваім дзіцячым чаканням, я не заўважыў асаблівага захаплення гэтым фактам у сваіх бацькоў. А дзяды дык увогуле прасвятлілі мяне наконт беларускіх нацыянальных колераў, якім мой піянерскі гальштук не зусім адпавядаў. Таму ў адрозненне ад той настаўніцы, якая рэкамендуе запісвацца ў БРСМ, я ўжо з дзіцячых гадоў перастаў блытаць паняцці „антысаветчына” і „антыбеларусчына”. Як па мне, дык яны ўзаемавыключаюць адзін другога і сінонімамі аніяк не з'яўляюцца. І таму, як прыйшоў час уступаць у шэрагі ВЛКСМ, правобраз сённяшняга БРСМа, я проста праігнараваў гэту працэдуру. Хоць у той час у гэтую арганізацыю па фармальнай прыкмеце ўступалі ўсе. Але мне не хацелася больш выглядаць дурнем у вачах сваіх дзядоў.

Настаўнікі Гальшанскай сярэдняй школы ані разу не сказалі мне ісці супраць думкі старэйшых родных. Наколькі мая нязгода быць камсамольцам паўплывала на атэстат, сказаць не бяруся. Можа і ніяк. А вось пры паступленні ў Мінскі тэхналагічны інстытут на факультэт лясной гаспадаркі даведка ад камсамольскай арганізацыі аказалася абавязковай. Без яе дакументы не прымалі ўвогуле. І як я ні даказваў, што па маёй лясной спецыяльнасці і бабрам, і ваўкам, і нават зайцам глыбока да лямпачкі камсамолец я ці не, і што аніякі мядзведзь ці іншы лясны звер у мяне патрабаваць камсамольскі білет, каб зайсці ў лес не будзе, дакументы без камсамольскай даведкі ўсё адно не прымалі.

Я ад безнадзейнасці нават пажартаваў, што партызанаў у нашых лясах даўно ўжо няма, а калі і былі б, то невядома дапамог бы мне камсамольскі білет, ці нашкодзіў бы. Бо розныя ў нас былі партызаны. Жарт не быў успрыняты належным чынам. Наадварот, напалохаў.

Не ведаю чым бы закончылася ўсё, каб не адзін з камісіі. Ён пачакаў як я выйду ў калідор, дагнаў мяне і ціхенька параіў, каб я ехаў у Ашмяны, зайшоў у раённую камсамольскую арганізацыю і ўступіў туды хаця б на адну гадзіну, каб даведку атрымаць. А пасля зразу і выйсці з той арганізацыі можна. Ніхто, нібыта, трымаць не будзе. Патрэбны я там як зайцу стоп-сігнал. Яны самі там толькі за грошы сядзяць. Або і па-іншаму зрабіць можна, узяць даведку, што я не камсамолец. Маўляў, ніхто той даведкі чытаць не будзе. Проста глянуць, што ёсць даведка з камсамола, і дакументы прымуць.

Не думаў я тады, што праз доўгіх ажно трыццаць восем гадоў пасля гэтай ганебнай для савецкай сістэмы адукацыі падзеі, падобная парада будзе актуальная і надалей для людзей на маёй Радзіме. І што падлеткаў, школьнікаў, па сутнасці яшчэ дзяцей, будуць палохаць будучыняй, калі яны не ўступяць у невядома куды...

Ну а запіс стаў хітом. Самі ўдзельнікі не ведаюць, хто яго запісаў. Можа хто з-за дзвярэй, можа з-пад стала... А так хочацца думаць, што зрабіла яго сама настаўніца, якую гэта ўжо так дастала, як і многіх іншых, што вырашыла вось такім чынам спыніць тэатр абсурду. А што?! Я б такую прыгожую версію не адкідваў. А то чалавек з вышэйшай адукацыяй ставіць знак роўнасці паміж словамі „антысаветчына” і „антыбеларусчына”.

Але тэатр усё роўна працягваўся. Аказваецца, у Беларусі святкавалі стагоддзе ВЛКСМ. І па тэлебачанні ішла рэклама, сам бачыў, і БРСМ уклаў свой пасільны ўнёсак у арганізацыю святкавання, і іншыя знайшліся. Праводзілі мерапрыемствы розныя, хіба назад у СССР хацелі. Ну то так ім і трэба.

❖ **Віктар САЗОНАЎ**

# Мы ўсе — Пеpo



На адной са студэнцкіх гульняў з'явіўся жахлівы фалас. Больш канкрэтна, гэта была замаскіраваная такім дзяўчына, якая, замест апрануцца ў некранутую дзявоцкасць, свяціла фалічнай галізной да самае раніцы, з задавальненнем выдурняючыся ў кампаніі іншых маладых людзей невядома за каго замаскіраванымі і для чаго. Але лепш не гадаць. Гэтая падзея, паводле некаторых шакавальная, паводле іншых — студэнцкі выдрымус, прайшла нядаўна, але я не магу ўспомніць дзе — у Кракаве, ці ў Быдгашчы. Але было б цікавей, каб у Торуні. Тады б мела разгул «лявацкая» журналістыка! І так усё «разышлося па костках» і прапісаўскай прэсе, якая не хавала абурэння, ні шкадуючы сваім чытачам дабрадзейных разважанняў і апакаліптычных папярэджанняў... Што гендарная пачварнасць распаўсюджваецца па Польшчы як тая бактэрыя Нью-Дэлі па беластоцкіх бальніцах... Што гэта пачатак канца хрысціянскіх каштоўнасцей. І нешта яшчэ, і нешта да таго. Аднак гэтых — угаворванняў і асцярог — у гэтай прэсе хоць адбаўляй, што таксама прыводзіць да засмучаючых паказчыкаў яе чытабельнасці. У любым выпадку выдумка з фаласам, калі б была на самой справе выдумкай, прагарэла. На самой справе аказалася брыдкім выпендрошам.

Пераапрананкі і маскі гэта нічога новага ў чалавечай культуры. Ужо ад сярэдніх вякоў яны суправаджалі карнавальныя забавы. Магчыма, гэта прыкмета чалавечай супярэчлівасці. Або бунту? Штодзённыя ролі, як вынік культурнага і цывілізацыйнага кода, прымушаюць нас да надзявання масак і касцюмаў. Здараецца, што яны ляжаць на нас як пальчатка. Некаторыя нават ідэнтыфікуюць сябе з імі. Некаторыя адну маску надзяваюць на іншую маску. Цяжка адрозніць, хто ёсць хто. Але канчатковa кожны гэта... Перo. Я так думаю. Яго меланхалічная фігура ўзятая з камедыі дэль артэ, заўсёды ў белай апранасе, твар яго груба пабелены мукой, як маска, і з вялікімі чорнымі слязамі, смешная і трагічная адначасова. Ужо толькі таму, што пад той маскай няма нічога іншага. Жыццё само па сабе.

Фалас са студэнцкага балю гэта гогалеўскі (не варта блытаць з гуглскім) нос, які прыняў па вымарачнаму законе ўсю ідэнтычнасць свайго чалавечага гаспадара, асэсара-чынушкі па імені Кавалёў — героя аповесці Гогаля. Проста ён пасля балю прызямліцца ў шафе. Хоць трэба прызнаць, што вакол фаласа заўсёды кружылі і да сёння кружаць непрыстойныя канатацыі. Польская гутарковая мова, асабліва так званая мова вуліцы, прыпісвае яму проста звышнатуральныя сілы перамянення брыдкага ў яшчэ больш выродлівае брыдкае. На жаль, тое што лепшае і прыгажэйшае — ужо даўно сапсаванае, і гэта неабавязкова праз фалічную мярзоту, пра што сведчаць ганебныя запісы на твітары міс-дэпутаткі Паўловіч. І прадстаўніком каго яна сцвярджаецца? Толькі што гэта «іншая пара галёш». Гогалеўскі нос меў гіпертрафію амбіцый. Такім чынам ён стаў сябе зваць тытулярным саветнікам, а гэта званне з царскай наменклатуры, і панаваць па вуліцах Санкт-Пецярбурга ў раскошным экіпажы, кіраваць і судзіць ды шыкоўна прадстаўляць сваю ўвасобленую перапрадстаўленасць. Дзіўна, колькі падобных на яго «наскоў» узнікла ў апошнія гады ў польскім Сейме і Сенаце! Ужо пра міс Паўловіч не ўспомню. Толькі што гэта не тая «пара галёш», а моцна зношаных лапцяў. Іншы твор Гогаля «Плашч» кранае праблему самаідэнтыфікацыі ў аб'ектызаваным свеце, які зводзіцца да парожняй формы каштоўнасцей. У схіляючайся да непазбежнага краху царскай Расіі, у якой «пацёмкінская» паверхоўнасць працяла ўсе аспекты жыцця, культуры, грамадзянскай і грамадскай супольнасці, і «Нос», і «Плашч» былі голасам засцярогі. Гогаль казаў, што істотны сам чалавек, з прыроджанай сваёй натурай множнасцю часовых і вечных канфліктаў, якія нязменна здараюцца паміж яго цялеснасцю і духоўнасцю, паміж трудам жыццёвай практыкі і ўтапічнай ідэяй асабістага або ўсеагульнага шчасця. Адзінай мерай гэтых канфліктаў павінен быць сам чалавек. Не безумоўная ідэя або перакананне; догма ці ўстаноўленае права. Не рацыя адчужанай ад паўсядзённага жыцця меншасці. Нават не абстрактная рацыя большасці. Толькі сам чалавек. Чалавек адслонены. Перo — суіснуючы з іншымі праз памяркоўнасць і спачувальную павагу для іншых. Так, Перo.

❖ **Міраслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# Выбарчы марафон (5)

Ну і другі тур самаўрадавых выбараў за намі. Памаленьку можам паглядзець і падсумаваць наш падляшскі панадворак, абмеркаваць вынікі ў нашых гарадах і гмінах. Калі выбары ў сеймік ваяводства — справа адкрыта палітычная, то выбары на іншых узроўнях самаўрадавай машыны з'яўляюцца месцам камуфляжу грамадзянскіх ініцыятыў пад рознымі назвамі. У меру ясна палітычнай была справа ў выпадку выбараў прэзідэнта і рады горада Беластока. Прэзідэнтам у першым туры на чарговы тэрмін абраны быў Тадэвуш Трускаляскі з Грамадзянскай кааліцыі, які набраў 66 498 галасоў (56,21%) і з вялікім адрывам абыграў Яцка Жалька з Права і справядлівасці — 35 795 галасоў (30,21%), Тадэвуша Арлуковіча з «Кукіз-15» — 9378 галасоў (7,93%), Кацярыну Штоп-Руткоўскую з Ініцыятывы для Беластока — 4963 галасоў (4,20%) і Станіслава Бартніка — 1726 галасоў (1,46%). Дзеля статыстыкі і палітычнай сатыры прыгадайма яшчэ асобу Войцеха Каранкевіча, які з'яўляўся афіцыйным кандыдатам Саюза левых дэмакратаў на гэты пост, але неспадзявана зняў сваю кандыдатуру ў карысць Ініцыятывы для Беластока. Гэткім ходам падвёў ён беластоцкіх левых проста пад дурнога хату, пакінуўшы іх з рукою ў начным гаршку. Затапіў іх проста як падводную лодку. Аднак ён сам, як і ягоны спісак, не апынуліся ў Радзе, хаця вынік пад дзесяць тысяч галасоў — з'ява станоўчая. На маю думку, павінен ён мець сваё прадстаўніцтва ў гарадской радзе.

У радзе горада Беластока апынуліся прадстаўнікі толькі дзвюх груповак — Грамадзянскай кааліцыі і Права і справядлівасці. Аднак цяпер выйграла групоўка дзейснага прэзідэнта, атрымаўшы шаснаццаць з агульнага ліку дваццаці васьмі радных. Дванаццаць мандатаў атрымала маючае да гэтай пары большасць у гарадской радзе Права і справядлівасць. Такім чынам прэзідэнт Тадэвуш Трускаляскі на новы, пяцігадовы тэрмін мае камфартабельную сітуацыю, маючы за сабою большасць галасоў радных. З другога боку, цяпер не можа ён абвінавачваць апазіцыйных радных, што не дазваляюць яму рэалізаваць выбарчыя абяцанні. Пабачым і праверым праз пяць гадоў, што атрымаецца зрабіць спадару Трускаляскаму ў горадзе празмерна ім завінавачаным.

Пераможная Грамадзянская кааліцыя — гэта кааліцыя партый Грамадзянская платформы і Навачэсная ды праваслаўнага асяроддзя, згуртаванага пад назвай Форум меншасцей Падляшша. І так у сапраўднасці гэта праваслаўныя аказаліся выйгранымі ў гэтай кааліцыі. Уводзячы пяцярых радных, па адным з кожнай акругі, будуць яны адыгрываць вырашальную ролю ў беластоцкай гарадской палітыцы. Без іх падтрымкі прэзідэнт і кааліцыя не будуць мець большасці ў Радзе. Дзеля таго як неспраўдлівым для грамадзянскіх ініцыятыў з'яўляецца метад пераліку галасоў відаць на гэтым прыкладзе. Праваслаўныя радныя здабылі разам 9467 галасоў і маюць пяць мандатаў. Віншуем такога выніку і прыводзім іх прозвішчы і колькасць здабытых галасоў: Тамаш Каліноўскі — 1012, Адам Мусюк — 2623, Сцяпан Нікіцюк — 2252, Ксенія Юхімовіч — 1287, Іаанна Місюк — 2293. А згаданая Ініцыятыва для Беластока набрала разам 9523 галасоў выбаршчыкаў Беластока (8,14%) — больш чым праваслаўныя — і не мае аніводнага свайго прадстаўніка. І калі апазіцыйныя партыі ў парламенце крычаць пра недахоп дэмакратыі ў краіне, то аднак поўнасцю згаджаюцца на такі, а не іншы метад пераліку галасоў на мандаты ў самаўрадавых выбарах. Вось і маем класічны прыклад палітычнай школы «грамадзянскага думання». Відавочна, усім не хочацца мець аніякай канкурэнцыі, асабліва пры раздачы выбарчых фруктаў. У такой сітуацыі ясным становіцца, што ад часоў праваслаўнага віцэ-прэзідэнта Аляксандра Сасны ізноў Тадэвуш Трускаляскі, хоча ці не хоча, мусіць зрабіць сваім намеснікам асобу з гэтага асяроддзя. Пакуль відавочную ахвоту на гэтую пасаду маюць не прымаючы ўдзелу ў выбарах Марк Масальскі і абраны радны Адам Мусюк. Хто з іх атрымае намінацыю з Божай дапамогай і ў выніку палітычных інтрыг даведаемся неўзабаве.

❖ **Яўген ВАПА**

У пятніцу, 19 кастрычніка, у 11 гадзін, у цэнтры Орлі адбылося ўрачыстае адкрыццё новага будынка Гміннага асяродка культуры. Інвестыцыя была зрэалізавана на працягу няцэлага года і каштавала амаль шэсць мільёнаў злотаў. Ад 1985 года ГАК месціўся ў сціплых гаспадарчых будынках, што асталіся пасля незакончанага рамонту стоячай побач сінагогі.



# Новы цэнтр культуры

Паспрыяла надвор'е, асенні дзень больш нагадваў летні дзень. На мерапрыемства прыбыло каля двухсот жыхароў гміны, былі таксама шматлікія запрошаныя госці. Гэта вельмі важная падзея для Орлі і насельніцтва Арлянскай гміны.

Што цікавае — на ўрачыстым адкрыцці цэнтра не было прадстаўнікоў мас-медыяў, быў толькі фотарэпарцёр Радыё Рацыя ды я. Не было, што яшчэ дзіўнейшае, святара, каб пакрапіў новы будынак. Мабыць, паўплывала на гэта выбарчая кампанія.

Вяла мерапрыемства Малгажата Хадакоўская з Управы гміны. Перад новым будынкам першы ўзяў голас войт **Пётр Сэльвесюк**, які, пасля прывітання прысутных, сказаў:

— Сёння я шчаслівы, што пасля многіх гадоў можам упершыню ўвайсці ў гэты новы цэнтр. 12 гадоў таму, калі я стаў войтам, часта чуў, што ёсць многа патрэб, але нямногае магчыма зрабіць. Мы гэта змянілі, супольна з жыхарамі, раднымі, давялі да таго, што многае можна зрабіць. Многа можна зрабіць, толькі дзеля гэтага трэба папрацаваць. Цэнтр, з якім сёння будзем знаёміцца, даволі мадэрны. Тут ёсць такія ўстановы, якіх няма ў Бельску і іншых гарадах. Орля ў гэтым плане з'яўляецца першапраходцам. Дзякую ўсім за дасюлешняе супрацоўніцтва. Гэта мы ўсе супольна ствараем гісторыю гэтай гміны і гэта ад нас залежыць яе выгляд. Звяртаюся да жыхароў, каб гэты цэнтр злучаў усё тое, што добрае, што прыгожае, што наша.

Сёння будзе з намі Марыся Адзіевіч (з „Арлян") і памятаю, як сем-восем гадоў таму, на парозе старога будынка казала: „Спадар войт, я б хацела дажыць таго моманту, калі ў нас будзе сапраўдны дом культуры". Ёсць з намі і дзеці. Я хацеў бы, каб цэнтр быў такім і для сеніёраў, і для дзяцей. Усяго добрага!

Віцэ-маршалак Падляшскага ваяводства **Мацей Жыўна**:

— У многіх месцах нашага рэгіёна супольна будуем дарогі, шпіталі, розныя інвестыцыі. Але калі маем дачыненне з такімі самаўрадаўцамі, якія інвестуюць у культуру, то хацелася б сказаць, што гэта такі момант, у якім дасканала адчуваецца патрэбы жыхароў. Мясцовая культура з'яўляецца вельмі істотным элементам будуючым свядомасць так наймалодшага пакалення, як і нас усіх. І калі ёсць такая магчымасць, інвестуем у культуру, а яна аддзячваецца ў многіх месцах і рознымі спосабамі. Я вельмі цешуся, што ў Арлянскай гміне, у Орлі, ёсць такі прыгожы будынак, які не будзе толькі кубатурай з гуляючым унутры ветрам, але тут будзе адбывацца многа добрых і цікавых падзей. Гэта абазначае, што цяпер усе мерапрыемствы, усе ініцыятывы можна будзе прытуліць да прыгожага памяшкання, гэта будзе дабрадзействам для вас усіх. Сардэчна дзякую спадару войту і віншую гэтай ініцыятывы. Мяркую, што жыхары будуць аўтэнтычна карыстацца гэтым набыткам цягам многіх чарговых гадоў. Усім вам жадаю сапраўднай карысці ад гэтага будынка. Спадзяюся добрага супрацоўніцтва, асабліва ў галіне культуры, бо многа супольных ініцыятыў ваяводскага самакіравання з Арлянскай гмінай ужо здзейсніло. Мяркую, што чарговыя, для прыкладу Еўрапейскія дні спадчыны, можна будзе пачынаць у фенаменальных умовах. Сёння з дырэктарам Анатолем Вапам не прыходзім з пустымі рукамі, хаця гэта не з'яўляецца дадатковай часткай будынка, але каб дзеці і моладзь мелі там як найбольш цікавых рэчаў, то сціплыя сувеніры, гульні, у рукі загадчыцы цэнтра. Жадаем, каб аб'ект добра служыў.



Бельскі стараста **Славамір Снарскі**:

— Меў я гонар ужо 16 гадоў быць старастам, таксама з вашага дазволу, бо ж гэта вы вырашаеце, хто мае быць радным. І хачу сказаць, што жыццё складаецца з такіх кампанентаў: ёсць людзі, якія гавораць што нешта трэба зрабіць, што нешта не так. Але ёсць людзі, якія не толькі гавораць, але і выконваюць. І менавіта такога маеце ўладара, спадара Пятра Сэльвесюка, які выконвае. І вялікія воплескі для спадара войта. І часам у мяне складваецца такое ўражанне, што калі людзі нешта робяць, то мусяць тлумачыцца з таго, што робяць, а тыя, што нічога яшчэ не зрабілі або не робяць, маюць найлепшыя рэцэпты. Спадар войт мае добрыя рэцэпты. І хачу сказаць, што калі ў сям'і ёсць поспехі дзяцей, то цешацца бацькі і бабулі. Таксама ва самаўрадавай абшчыне. Поспехі гмін з'яўляюцца поспехамі павета, ваяводства, краіны; і за гэта ўсе павінны быць удзячны менавіта тым, хто гаспадарыць на гэтай зямлі. Бо калі ўязджаецца ў дадзеную мясцовасць і сузіраецца, то заўсёды ўзнікае думка: а хто ж тут гаспадаром? Тым гаспадаром з'яўляецца войт, які штодзённа мусіць думаць, глядзець, прымаць рашэнні, выбіраць, а таксама здабываць грошы. Я з'яўляюся віцэ-прэзасам Саюза польскіх паветаў і мяне пытаюць: «А дзе ж тая Орля? Бо гэта такая прыбытковая гміна». Самаўрадавец рэалізуе, а пасля бярэ на сябе поўную адказнасць. Хачу падзякаваць Арлянскай гміне за гэтыя дзеянні, спадару войту, старшыні. І ведаю, што былі вы такімі, якія заўсёды хацелі зрабіць яшчэ больш. Цешуся з новага дома культуры і спадзяюся, што яшчэ неадночы сустрэнемся. Жыццё ідзе наперад, важная тая ўсмешка, той жэст, пашана. Віншую, і, усяго найлепшага!

Віцэ-стараста **Пётр Божка**:

— Гэты цэнтр упрыгожвае не толькі Арлянскую гміну, але і Бельскі павет, і ваяводства, бо будзе служыць галоўным чынам вам, жыхарам. І тым калектывам, якія працуюць у гміне ды прыдаюць бляск нашым павятовым мерапрыемствам. Тут будуць працаваць людзі. Віншую дырэктар Анне Несцярук. Новая інвестыцыя будзе служыць не толькі лепшым умовам працы, але будзе яна таксама стымулам для новых ініцыятыў, для рэалізацыі новых задум. І гэта ёй вялікі клопат на будучыню. Жадаю ёй сардэчна, каб справілася з той задачай, якая ўстала перад ёю на будучыню, для карысці жыхароў Арлянскай гміны. Сардэчна вам віншую гэтага дня.

Усе прамоўцы атрымалі гучныя воплескі ад публікі. Людзей сабралася столькі, як на фэсце. Было відаць, як у людзей нарастала жаданне ўжо ўвайсці ў будынак, гэта так, як на марозе нецярплівіць зайсці ў хату пагрэцца. А надвор'е было цёплае, сонечнае і без ветру.

Вядучая аб'явіла ўрачыстае перарэзанне стужкі. Перад уваходам у будынак стужку трымалі малыя дзеткі. Стужку пачаргова перарэзвалі запрошаныя госці, гмінныя ўлады, дырэктар ГАК, а таксама дзеці. Затым вядучая папрасіла ўсіх сабраных стаць перад будынкам для супольнага здымка. І наступілі агледзіны інтэр'ера.

На першым паверсе быў прыгатаваны велізарны „шведскі стол" з закускамі, ласункамі, напоямі. Побач прэзентавалася гістарычная фотавыстаўка. Людзі разышліся па ўсім будынку. Кожная зала выклікала ў наведвальнікаў ахі і охі. Падабалася людзям, былі захоплены.

На другім паверсе вялікая зала для гміннай бібліятэкі, побач вялікая канферэнц-зала, дзе на сцяне мімаходам мультымедыйна прэзентавалася будова цэнтра. Далей памяшканне для персаналу, зала для рэпетыцый з люстранай сцяной. І найбольшая глядзельная зала са сцэнай, якую смела можна назваць кіназалай са 150 мяккімі сядзеннямі на пакатай падлозе. І гэта не ўсё — прасторныя калідоры, санітарныя памяшканні, лесвіцы, ліфт, на падлогах някоўзкая футроўка. Як на адзін дзень для жыхароў — „галавакружэнне".

Калі прысутныя аглянулі другі паверх, вярнуліся за „шведскі стол". Мелі што каментаваць, хваліць, чаму радавацца. Кожны мог таксама атрымаць вялікі парасон з выявай гміннага герба.

У глядзельнай зале запрэзентаваліся наймалодшыя мастакі, дзіцячыя школьныя калектывы: „1/3" — спеў і танец, „Байка" — танец, „Рэкруты" — абрадавая сцэнка. А 16-й гадзіне глядзельная зала зноў запоўнілася, усе сядзячыя месцы былі заняты, некаторыя гледачы стаялі. На сцэне выступілі калектывы, якія дзейнічаюць пры ГАК: „Арляне", „Вэрвочкі", „Фэрмата", „Малінкі".

* * *

Да 1986 года дом культуры размяшчаўся ў частцы старога комплексу ў акружэнні іншых былых шпітальных будынкаў. І старэйшае пакаленне яшчэ цяпер адчувае сантымент да колішняга дома культуры. Я ўпэўнены, што і гэты сучасны новы культурны цэнтр паўплывае на жыццё чарговых пакаленняў і таксама пакіне ў іх памяці сантымент.

Тэкст і фота **Міхала МІНЦЭВІЧА**

## Самаўрадавыя выбары ў Кляшчэлеўскай гміне

У Кляшчэлеўскай гміне пражывае 2526 чалавек, у тым ліку 2174 з правам голасу. Сёлета 21 кастрычніка да выбарчых участкаў прыйшло 1239 выбаршчыкаў. За пасаду бургамістра змагалася двое кандыдатаў — Аляксандр Сяліцкі (дзейсны бургамістр) і Ірэна Негярэвіч (бургамістр папярэдняга склікання, г.зн. у 2010-2014 гг.). Ужо ў першым туры перамог Аляксандр Сяліцкі, які набраў 757 галасоў (61,10%) [канкурэнтка адпаведна — 482 (38,90%)]. За мандат дэпутата ў пятнаццаці выбарчых акругах змагалася шаснаццаць кандыдатаў. У кожнай акрузе па двух кандыдатаў з вылучэннем 11 акругі, дзе было прыпісана салэцтва Рэпчыцы і змагалася трох кандыдатаў. У склад Рады гміны былі выбраны: з салэцтва Сухавольцы Аляксандр Казімярук, Сакі — Пётр Гаўрылюк, Тапоркі, Залешаны — Пётр Дмітрук, Дабрывада — Дымітр Артысевіч, Белая Страж, Курашава, Палічна — Агнешка Раманюк, Грузка, Пятроўшчына, Паграбы, Жукі, Косьна — Катажына Коц, Дашы — Марк Мартыновіч, Кляшчэлі і салэцтва Рэпчычы — Аляксей Рошчанка, Януш Поляк, Рэната Маркевіч, Дарыя Сянкевіч, Ян Шмукста, Міраслаў Маркевіч, Катажына Вітошка, Ежы Глацкі.

**(ус)**

## Гусіны бізнес

Калісьці сяляне займаліся птушкагадоўляй. Амаль у кожнай дамашняй гаспадарцы на панадворках можна было сустрэць статкі курак, гусак, індыкоў ды качак. Прыпамінаюцца мне шасцідзясятыя гады, калі Гурткі вясковых гаспадынь займаліся распаўсюджваннем птушанят. Я сам ездзіў у Бельск-Падляшскі і афармляў (па блаце, нечаргова) курыныя і гусіныя птушаняты. Такі быў час. У сезон выхоўвалі штук дваццаць гусак. Танна абыходзілася. Гускам адно раздолле на панадворку — зялёная трава ды вада ды крыху зерня на прыбаўку. Адна была загана — забруджаны адыходамі панадворак. У летнюю спёку смурод невыносны. Апрача яек птушыная мяса было вельмі смакавітае, пры тым цэнны гусіны пух. Гэты спатрабляўся для вырабу падушак і пярын. Дзяўчына, якая выходзіла замуж, павінна была мець пуховую пасцель — пярыну і падуху. Такая была звычка.

А мы з жонкаю заядаліся печанай гусяцінай. Закладалі парубанае мяса ў шкляныя баначкі і запякалі ў духоўцы. Аб'ядзенне, пальчыкі лізаць. Зараз з прагрэсам усё загінула. З апошняй тэлеперадачы «Аграпасьці» даведаўся я, што цэнтрам гусінай гадоўлі з'яўляецца Куяўска-Паморскае ваяводства. Там бізнес працвітае ў злучаных сямейных гаспадарках. Гусяціна ў 90% трапляе на экспарт — каля васемнаццаці-дваццаці тон у год пастаўляем у Еўрасаюз: у асноўным у Нямеччыну, крыху менш у Швейцарыю, Данію, Вялікабрытанію, затым у Японію, Азію і Амерыку. Варта адзначыць, што з кожным годам больш гусяціны трапляе на айчынны рынак. А мяккім гусіным белым пухам проста з Польшчы захапляецца... Японія.

А можа варта вярнуцца да мінулай традыцыі і на Падляшшы?

**Уладзімір СІДАРУК**




# «Пявучыя сем'і» ў пяты раз

«Пявучыя сем'і» — адна з навейшых ініцыятыў Беларускага грамадска-культурнага таварыства, задуманая яшчэ сакратаром БГКТ Валянцінай Ласкевіч. Пяты раз запар у сядзібу Галоўнага праўлення па вуліцы Варшаўскай 11 у Беластоку збіраюцца аматары беларускай песні — слухачы і выканаўцы, якіх не зможа асенняя аўра, для якіх гэта яшчэ адна сустрэча з роднай песняй. У фінансаванні мерапрыемства БГКТ дапамагло Міністэрства ўнутраных спраў і адміністрацыі Польшчы.

— Учора мы былі на балі пенсіянераў, — кажа Зіна Абрамовіч, што разам з сябрам яшчэ далёка да пачатку мерапрыемства заняла крэсла ў глядзельнай зале ГП. — Як заўсёды добра гуляем. Ігралі найбольш беларускія песні, гурт, што раней называўся «Кошыкі», з Жамойдам. Я тут недалёка жыву, на Баярах, і не прапускаю ніводнага файнага беларускага мерапрыемства. Вельмі люблю беларускія хіты! Добра памятаю, што тут, на Варшаўскай, рабілася ад самога пачатку. Праўда, не спявала я ні ў хоры, ані не танцавала, але я сюды прыходзіла, бо ў гэтым раёне выхаваная. Тыя людзі, што тут спявалі, ужо старыя, або і няма іх. Тут было цэлае жыццё! Жывуць яшчэ Люба, Лілька. Немаладыя, але маглі б яшчэ і падскочыць! Я была нават тэрэновым апекуном на Баярах пятнаццаць гадоў. Увесь час з людзьмі. А сына вадзіла ў беларускае таварыства, каб вучыўся іграць на гармоніку. А ведаем тых, хто тут выступае — і таго хлопца, Адама Андрайчука, з сынам з Заблудава, ён пры царкве ў «свячным яшчыку» займаецца. І Багдана з дзяўчатамі. Бач, жонка ў яго каталічка, а як цешыцца і дбае, што дзяўчаты па-беларуску спяваюць. Здольная дзятва тут у нас! Так плакалі, што Багдан прападзе, калі ажэніцца з нянашай, а так пайшло ў яго спраўна і хораша, дзякуй Богу.

— Тут, бачу, кругагя знаёмыя, землякі, сваякі! І ўсё памятаеце...

— У кожнай вёсцы швагер швагра, — смяецца сусед Зіны, Сяргей Чыквін. — Там, у Гнецюках, большая палова Андрайчукоў. Ну, яны цяпер у Заблудаве. А калі наконт часу «Лявоніх», я, праўда, маладзейшы, не ўсё памятаю. Але мой сябра Базыль часта расказваў пра час, калі «Лявоніха» выступала. Хораша спявалі, танцавалі, ездзілі і па Падляшшы, і за мяжу, у Беларусь. Беларускія гурты былі яшчэ і да БГКТ, з 1953, 1954 года, як Гарадок. «Лявоніха» то была наша першая эстрада! Я ўжо дваццаць гадоў на пенсіі. Ходзім цяпер то туды, то сюды, дзе пачуем родную песню! І публіка не знікае, калі канчыцца конкурс, чакае ацэнак журы, і сама падпявае...

Адны з першых паявіліся спевакі з Гарадка — Ірэна і Янка Карповічы з унучкай Магдай Крук. Вучыцца ў Гарадку, у чацвёртым класе, ходзіць на беларускую мову. Магда выступае на такім мерапрыемстве першы раз. Затое хлопца з Заблудава — Янку Андрайчука, мы бачылі на беларускім мерапрыемстве не першы раз. Выступаў ён з дзецьмі з Рыбалаў. Сёння ён з татам Адамам. Ян перастаў быў выступаць, бо вельмі змяняўся яго голас, аж дайшоў да... самавітага басу. Сёння яны выступяць без акампанементу. З моцным рэпертуарам, які пакажа моц іх галасоў. Янка нават ніжэй бацькі цягне «туманныя», густыя песні «Туман ярам», «Пакаціўся туман». Аж шкода, што хлопца пацягне ў лес, а не на оперную сцэну — выбіраецца ён пасля васьмага класа ў лясны тэхнікум у Белавежу. Тата Адам сёння спявае вышэй, а Ян ніжэй — аж дзіў бярэ, адкуль бярэцца такі моцны голас з юных грудзей! Адам шкадуе, што сын не мае такіх магчымасцей цяпер вучыцца музыцы ў вёсцы:

— Я езджу да сваякоў у Беларусі. Там ужо ў звычайных школах, у вясковых у клубах, дамах культуры вучаць ігры і спевам моладзь. У Жыровіцкіх, мясцовасці меншай чым Заблудаў, вучаць дзяцей музыцы ў доме культуры...

— Вельмі прыемна прымаць вас у сценах Беларускага таварыства пры нагодзе «Пявучых сем'яў», — пачаў імпрэзу намеснік старшыні ГП БГКТ Васіль Сегень. — Вітаю перш за ўсё выканаўцаў песень, тых, хто іх рыхтаваў, і ўсіх тых, хто прыйшоў дапамагаць ім сваёй прысутнасцю ў самых лепшых выкананнях беларускай песні. Апошні раз у конкурсе — ад наступнага года будзе гэта агляд, без конкурснай асновы, без вылучаных месцаў. Але гэта не абазначае, што ніякіх узнагарод пры аглядзе не будзе. Апошні раз у камісіі працуюць вядомыя спецыялісты, прафесіяналы сваёй справы, з вышэйшай музычнай адукацыяй, Іаанна Аўгустынчык, Міраслава Ціханюк і Гражына Валкавыцкая-Тамашук, старшыня камісіі.

Пакуль аб'яўлены былі вынікі конкурсу, пасля дадатковых спеваў дзяўчатак з Грабаўкі, Чарка і Адрыяна Данілюкоў з Міхалова, з трыма песнямі выступіў усхваляваны слухач Ян Дамброўскі, а з ім заспявала ўся зала. Шмат у каго на вачах паказаліся слёзы, калі спадар Ян спяваў песню пра стары домік ля дарогі. Ніхто не збіраўся выходзіць з залы на халодную звечарэлую вуліцу. Усе грэлі свае сэрцы пры роднай песні, чакалі яшчэ прыезду сям'і Фіёнікаў са Студзівод, якія імчаліся ў Беласток з Чыжоў, з песеннага фальклорнага агляду, дачакаліся аб'яўлення вынікаў конкурсу.

Сярод аднапакаленных сем'яў дуэт Кася і Марта Васькоўскія з Беластока занялі першае месца, Агата і Соф'я Усціновічы з Беластока — другое месца. Сярод вакальна-інструментальных калектываў: сёстры Астапчук з Грабаўкі (Супрасльская гміна) занялі першае месца. У двухпакаленных сем'ях у дуэтах, квартэтах і трыо: сямейнае трыо «Мама і сыночкі» з Міхалова занялі першае месца, дуэт Адам і Ян Андрайчукі з Заблудава — трэцяе месца. Сярод вакальных калектываў і вакальна-інструментальных калектываў сям'я Фіёнікаў са Студзівод завяявала першае, а сям'я Карповічаў з Гарадка — трэцяе месца.

Тэкст і фота **Міры ЛУКШЫ**



Сёстры Астапчук з Грабаўкі


Сям'я Фіёнікаў са Студзівод


Кася і Марта Васькоўскія



Мама і сыночкі з Міхалова


Агата і Соф'я Усціновіч


Адам і Ян Андрэйчукі з Заблудава


Сям'я Карповічаў з Гарадка

Новае выданне

Пра кнігу памяці Зміцера Кісяля

# Патрыёт, які любіў ноч

Пяты клас СШ № 13 г. Гродна, 1975 г. Дзіма Кісель у першым радзе трэці злева. Фота друкуецца ўпершыню



У Гародні выйшла з друку кніга памяці Зміцера Кісяля (1963-2005) — гарадзенскага грамадскага актывіста, гісторыка і журналіста. Кніга называецца — „Адзін з першых”. Шчыра кажучы, я баюся такія кнігі чытаць, гартаць, глядзець, бо яны пра маіх равеснікаў, сяброў, знаёмых, якіх ужо няма на гэтым свеце. Памятаеце ў Алеся Пісьмянкова ёсць такія радкі:

*Я ўсё яшчэ жыву,*
*Цалую вусны любай,*
*Я ўсё яшчэ плыву*
*Без вас, Стрыжак і Рубін...*

Сапраўды, я яшчэ плыву па гэтым жыцці, але без многіх маіх сяброў. Я яшчэ цалую вусны любай, а маіх равеснікаў ужо няма. Як жа так?.. Чаму іх няма? Ім жа жыць і жыць яшчэ?.. Жыць і жыць і Дзіме Кісялю. А яго ўжо 13 гадоў мы не бачым і не чуем побач. Хаця, бываючы ў Гародні, здаецца ён вось-вось адчыніць дзверы і спакойна, ціха з'явіцца на прэзентацыю, сустрэчу, на пікет у абарону роднай мовы. Але гэта толькі здаецца — Дзімы няма.

Вельмі хочацца верыць, што кніга „Адзін з першых” — гэта толькі першае выданне ў вянок памяці таленавітага гарадзенца. Бо асобным выданнем трэба збіраць усю яго творчую спадчыну, бо яна ёсць, яна засталася. У кнігу ўвайшлі толькі артыкулы Зміцера Кісяля, якія публікаваліся ў „Ніве”. Дарэчы, выданне пабачыла свет, дзякуючы тыднёвіку „Ніва”, яе рэдактару Яўгену Вапу, а таксама Віктару Сазонаву, Уладзіміру Хільмановічу, Янку Трацяку і Цэнтру гарадскога жыцця ў Гародні. А Зміцер Кісель друкаваўся ў „Рэанімове”, „Пагоні”, у газеце „Рытм” гарадзенскага вытворчага аб'яднання „Хваля” і шмат яшчэ дзе. Усе яго артыкулы трэба сабраць у адну кнігу і выдаць. Толькі хто і калі гэтым зоймецца?.. Таму ўсе мы, хто ведаў Зміцера Кісяля і хто не ведаў, але чуў пра яго, удзячны тым, хто спрычыніўся да выдання „Адзін з першых”.




Ён сапраўды быў адным з першых, хто перажываў за Беларусь, хто яе моцна любіў, хто браў да сэрца тое, чаго ў краіне не магло быць. Амаль усе артыкулы-ўспаміны пра Зміцера напоўнены радкамі: „Ад такіх людзей як Дзіма Кісель павінны... вучыцца вернасці сваёй Бацькаўшчыне” (Яўген Вапа); „Калі думаеш, якімі людзьмі ўвасабляецца Беларусь, дык Зміцер Кісель стаіць тут у першым шэрагу” (Зміцер Сідарэвіч); „Зміцер Кісель быў у ліку таго дзесятку людзей, што пачыналі ў Гародні ў сярэдзіне 1980-х адраджэнне беларушчыны” (Уладзімір Хільмановіч); „Ён быў Беларусам, жыццё якога можна змясціць у адным скупым радку: „ён прысвяціў сваё жыццё Беларусі” (Віктар Сазонаў) і г.д.

Кніга „Адзін з першых” складаецца з трох раздзелаў і прадмовы Уладзіміра Хільмановіча „Сын камбатанцкага палку”. Першы раздзел склалі творы Зміцера, якія публікаваліся ў „Ніве” у 1999-2005 гадах, другі раздзел — успаміны пра Дзіму. А ў трэці раздзел увайшла гутарка Андрэя Мельнікава з бацькам Дзімы, Уладзімірам Кісялём. У выданні шмат здымкаў. На многіх з іх Зміцер Кісель у полымі бел-чырвона-белых сцягоў.

Вельмі шчырая прадмова ў кнізе Уладзіміра Хільмановіча, які адзначае, што ў Дзімы было вельмі шмат сяброў не толькі ў Гародні, але і на Беласточчыне. Ён сябраваў і падтрымліваў кантакты з Яўгенам Вапам, Міхасём Андрасюком, Міколам Ваўранюком, Янам Морданем, запрашаў іх у Гародню. Добра было б, каб і гэтых хлопцаў, акрамя Яўгена, у кнізе былі ўспаміны. Уладзімір Хільмановіч, спадзяецца, як і мы ўсе, што некалі ў горадзе над Нёманам з'явіцца вуліца Зміцера Кісяля. Гародню ён любіў і добра ведаў. Ён перажываў за музей Максіма Багдановіча, якім кіравала Данута Бічэль-Загнетава. А калі яе звольнілі з працы — пісаў пра гэта ў „Ніве” (№ 3 за 1999 год). Хвалявала Зміцера і тое, што ў Гародні няма беларускіх школ. Ён пісаў пра тое, як студэнты Гарадзенскага ўніверсітэта прымушаюць чытаць лекцыі па-беларуску. Пісаў таксама пра распаўсюджванне ўлётак пад назвай „Мужыцкая праўда” ў Гародні, пра спартова-патрыятычную арганізацыю „Край”, пра апалітычных вяскоўцаў і пра сустрэчу двух пакаленняў патрыётаў... Пісаў ён шмат, хаця гэта былі невялікія артыкулы, даследаванні, паведамленні. Але пісаць ён умеў добра. І сваю справу любіў.

Апублікаваны ў кнізе і ўспаміны пра Зміцера Кісяля Васіля Бязмена і Зміцера Сідаровіча. Пакуль рыхтавалася выданне да друку і гэтых хлопцаў не стала. А былі яны яшчэ зусім маладымі...

Кніжка „Адзін з першых” невялікая па памеры — усяго 103 старонкі. Але на яе бачынах добра апісаны вобраз маладога беларускага патрыёта канца XX — пачатку XXI стагоддзяў. Патрыёта, які любіў ноч і які пакінуў гэты свет у самым росквіце фізічных і творчых сіл. Шмат яшчэ мог зрабіць. Але яго віны ў тым няма. Так прыгадваюць пра яго Яўген Вапа і Віктар Сазонаў. Шчыра ўспамінаюць пра Зміцера і Алесь Чобат, і Мікола Таранда.

Апошні раздзел кнігі — гутарка Андрэя Мельнікава з Уладзімірам Кісялём — бацькам Дзімы, зробленая ў верасні 1998 года. Гутарка вельмі цікавая і яна дапаўняе ўсё сказанае пра Дзіму, яго грамадскую і журналіцкую дзейнасць. Уладзімір Кісель быў сябрам „Саюза беларускіх патрыётаў”, потым удзельнічаў у нелегальным арганізацыйным сходзе „Саюза змагання за незалежнасць Беларусі”. Яго арыштавалі органы НКУС у 1949 годзе і асудзілі на 25 гадоў сталінскіх лагераў. Потым арыштавалі і жонку Галіну — маці Дзімы. У 1960-м годзе яны вярнуліся ў Гародню, а ў 1962 годзе ў іх нарадзіўся сын Дзіма. Андрэй Мельнікаў прыгадвае: „Кісялі былі людзьмі, якія збіралі і дасылалі да мяне „дачкі” ў Гарадзенскую турму восенню 1997 і зімой 1997-1998 года, людзьмі, у якіх я спыніўся ў „вольныя” прыезды ў Гародню і спыняліся яшчэ шмат якія беларусы. Заўжды ў хаце Кісялёў знаходзілася смачная ежа (Уладзімір Адамавіч асабліва ганарыўся сваімі „клецкімі” хітрыкамі апрацоўкі гуркоў) і месца для здаровага сну... Спадарыня Галіна, спадары Уладзімір і Зміцер Кісялі былі светлымі людзьмі”.

Светлыя Кісялі з Гародні! І чаму так рана яны пакінулі гэты свет, асабліва Дзіма? Той самы Дзіма Кісель, які мацней за ўсё і ўсіх любіў Гародню, Беларусь, свой народ. Ён быў — адзін з першых!..

Чытаю-перачытваю добрую кніжку пра Дзіму. Заходзіць у госці стрыечны брат Андрэй Важэйка і пытае: „А што ты там чытаеш?” „Кніжку, — кажу, — чытаю пра добрага хлопца з Гародні, які рана пайшоў з жыцця”. „А што за хлопец, можа я ведаў яго?”— зноў дапытваецца брат.

— Дзіма Кісель.

— Дзіма?.. Дык гэта мой аднакласнік, мы разам вучыліся ў гарадзенскай школе № 13. У мяне нават захаваўся здымак класа, дзе ёсць і Дзімка Кісель, — сказаў Андрэй. — Я зараз прынясу...

Брат хуценька пакінуў кватэру і праз некалькі хвілін прынёс фотаздымак пяцікласнікаў гарадзенскай СШ № 13, на якім у першым радзе сядзіць і Дзімка Кісель. Хто мог тады падумаць, што з гэтага прыгожага хлопчыка вырасце сапраўдны, смелы і шчыры патрыёт нашай Бацькаўшчыны.

Сяргей ЧЫГРЫН

## «ДУХ ЧАСУ» ЮРЫЯ ВЕСЯЛКОЎСКАГА

Добра памятаю прыгожы сонечны дзень 8 сакавіка 2005 года, калі з-за хмар прабівалася цёплае сонейка, а я праз снег на тратуарах цэнтра Беластока ішоў у рэдакцыю «Нівы», каб павіншапваць журналістак з Днём жанчын. У гэты дзень ад добразычлівага намесніка галоўнага рэдактара «Нівы» Віталя Лубы атрымаў я незвычайны падарунак, а менавіта кнігу «Дух часу» вядомага беларускага дзеяча Юрыя Весялкоўскага. Факт, кніга тоўстая, больш за 700 старонак. Я яе шмат разоў стараўся прачытаць да канца і не ўдавалася. «Дух часу» ўдалося прачытаць у гэтым годзе. І хаця напісана шмат рэцэнзій на яе, аднак і я адважыўся некалькі слоў дадаць ад сябе. Вядома, што я не першы і, думаю, не апошні, які ўзяў ці возьме ў рукі гэтую кнігу. «Дух часу» гэта збор крытычных і палемічных артыкулаў аўтарства Юрыя Весялкоўскага, якія з канца 1940-х гадоў па 2005 год друкаваліся ў такіх беларускіх часопісах як «Аб'еднаньне», «Званіца» ці «Голас часу», якія выходзілі ў Вялікабрытаніі, а якіх аўтар быў галоўным рэдактарам. Змешчаны таксама артыкулы з такіх беларускіх часопісаў як «Голас Радзімы», «Рунь», «Беларус» і многіх іншых. Калі спадар Юры Весялкоўскі зараз чытае гэты мой допіс, дык адразу за ўсе гэтыя артыкулы і ўвогуле кнігу «Дух часу», я — шэры, зусім не вядомы і ананімны паэт з Падляшша Вам, спадар Юры, вельмі дзякую. А чаму? Таму, што Вы яшчэ жывяце і ў сваіх артыкулах моцна абараняеце праваслаўе, а таксама згадваеце пра беларусаў з Беласточчыны, якія таксама шмат пацярпелі перад Другой сусветнай вайной, а таксама пасля яе. Мне вельмі спадабалася, што Вы ў сваіх артыкулах бароніце праваслаўе як карэнную веру на Беларусі. Вы маеце тыя самыя погляды, як і я на берасцейскую унію, на асобу Кастуся Каліноўскага, які ў сапраўднасці бараніў польскія, а не беларускія інтарэсы. Тое ж самае было і з Адамам Міцкевічам, які, хаця беларус і ў сваіх польскамоўных творах тыпу «Пан Тадэвуш» ці «Дзяды» пісаў пра Беларусь, дык сапраўды быў і застаецца польскім паэтам, таму што пісаў на польскай мове і дзякуючы польскай мове стаў вядомым паэтам. Тое ж самае з Тадэвушам Касцюшкам ці філаматамі і філарэтамі. Хаця яны сыны Беларусі дык баранілі польскія інтарэсы і з гэтым я з Вамі пагаджаюся. Адзіным вялікім беларусам, які шмат зрабіў для Беларусі, быў Францыск Скарына, які выдаў адну з першых друкаваных у Еўропе кніг — Біблію на беларускай мове. Спадар Юры, я Вам вельмі дзякую, што Вы так моцна бароніце праваслаўе і крытычна пішаце пра душагуба Язафата Кунцэвіча, які на сваіх руках мае многа крыві праваслаўных людзей, ахвяр берасцейскай уніі. Вы моцна бароніце праваслаўе таму, што нездарма Ваш патрон святы Юры — гэта мучанік за веру Хрыстову. Вы і крытыкуеце сучасных уніятаў, якім пасля Другой сусветнай вайны ў Вялікабрытаніі зусім не ўдалася іх місія, якую хітра прабаваў здзейсніць уніяцкі біскуп Сіповіч, якому зусім не ўдалося знішчыць моцнага праваслаўнага духа эмігрантаў з Беларусі, якія жывуць у Вялікабрытаніі. Пішу вам зараз таму, што ведаю, што Вы яшчэ жывяце і таму Вам жадаю многая лета і каб Вы векам дараўналі да самага найстарэйшага беларуса на свеце — Барыса Кіта. Я Вашу кнігу прачытаў у цэласці з вялікай цікавасцю ды моцным захапленнем.

**З пашанай Ваш чытач**
**Юрый БУЙНЮК з Беластока**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі



Падобныя вынікі прыносіць мастацкае чытанне казак.

Акцёрка Іаанна Троц прапанавала дзецям з беластоцкай праваслаўнай школы «Казкі па-свойму». Гэта пераклад на падляшскую мову, — мову людзей ад Гайнаўкі, Бельска, Сямятыч, — сусветнай класікі жанру: казак Ханса Андэрсена, братоў Грым, Шарля Перо...

У час заняткаў яна прачытала «Казку пра спячуюю каралеву». Аповед агучыла скрыпка ў выкананні ліцэісткі Эвы Кот. Казка на прызабытай мове дзядоў прамовіла да слухачоў. Яны вокамгненна размалявалі запамятаныя вобразы...

Пераклад падляшскіх казак быў зроблены ў чэшскай Празе Янам і Галінай Максімюкамі. У такі займальны спосаб яны стараліся прыблізіць мову продкаў дачушцы Марылі. Таму і тая спячая прынцэса — менавіта Марылька!

**ЗОРКА**

# Казкі па-свойму!

Мы прывыклі глядзець казкі і анімацыі на экране камп'ютара або смартфона. Іх можам уключыць і выключыць у любую пару і вокамгненна пра іх забыцца, выкінуць з галавы. Інакш, калі казкі апавядае нам мама, бабуля, дзед... Тады разам са зместам засвойваем пачуцці. І верым у такія казкі як у найсапраўдную праўду, перажываем іх, памятаем...

(Байкі сярэднявечнай Арменіі)

## Каровы

Паспрачаліся аднойчы каровы:

— Мы шчыруем дзеля нашых цялятак, для іх вырабляем малако. А людзі? Для іх трэба адно дойных кароў. Ім не цікава, якія ў нас думкі, пачуцці...

Пара ўжо дабіцца самастойнасці. Давайце ўцякаць — хопіць прыгону і рабскай службы!

— Муууу! — зараўлі жывёлы.

А адна мудрая карова, калі пачула ўсе нараканні, падумала і сказала:

— Гэта не так, каб людзі забіралі ўсё малако ад нашых цялятак і нічога ім не пакідалі. Наадварот, яны дояць нас, калі пасля цялят малако застаецца ў вымі. Узамен яны нас кормяць і даглядаюць. Усю нашу сям'ю: кароў, быкоў, цялят. Яны таксама абараняюць ад лютых звяроў, ад крэпкіх маразоў, ад працяглай засухі...

Ды праўда такая — мы атрымліваем ад людзей больш, чым даем ім таго малака...

— Муууу! — пагадзіліся каровы.

І калі зразумелі залежнасць з чалавекам, акрыялі, пабадрэлі.

*(пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк)*

Сільвія ГРЫКА
ПШ у Міхалове

## Восень

Ідзе прыгожая, залатая восень.
Няхай чыстыя дні прынясе,
Няхай сонейка цёпла свеціць,
Гэтага хочуць дарослыя і дзеці.
У каляровыя лісточкі
апрануты дрэвы,
А ў іх спявае птушачка,
Галінкі вецер калыша,
Увосень мяняецца свет.
У садах падае спелая садавіна.
Ночы даўжэюць.
У агародах спелая агародніна.
Да зімы трэба ўсё схаваць!

Пімен ПАНЧАНКА

## Асеннімі даждажамі

Асеннімі даждажамі заліло
Апошнія чаканні і спатканні,
Пажоўклых клёнаў ціхае святло,
Скупога сонца роснае дыханне.

І пачала зямля крыху цвярдзець,
То сюжа — пераможца ў паядынку
Раскідвае зары світальнай медзь
У лужынах барвовыя ільдзінкі.

А потым навалілася на дол
Вялікая і белая бясконцасць.
І заблудзіўся кожны мінскі дом
У пошуках растрачанага сонца.

А твар зямлі заснежанай не мёртвы:
Ён зменлівы, як пошум баравы.
Там, у барах, аж да вясны ў сумётах
Схавалі свае трубы жураўы.

Яны іх знойдуць і яшчэ зайграюць,
Склікаючы дзяцей, ліству, блакіт.
І на ўсім краі аж да небакраю
Маланкамі набухнуць аблакі.

## УВАГА КОНКУРС! № 45-18

**Цела ўсё цаглова,
А каса зялёная.
У зямлі яна сядзіць,
Бо не можа ўстаць, хадзіць.
Да яе любоў хто мае –
За касу штодня цягае.
М.....**

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку" да 18 лістапада 2018 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

## Загадкі з роднай хаткі

**Адказ на загадку № 41: куніца.
Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі Вікторыя Гаць і Дам'ян Карнілюк з Бельска-Падляшскага. Віншуем!**

## Конкурс на 100 год БНР — мой герой беларус!

# Дзед Міцька — *мой герой*

Гэтае інтэрв'ю я напісала на аснове расказаў майго бацькі — сына брата дзядулі Дзмітрыя.

Дзядуля расказваў усё гэта майму бацьку, а ён расказаў мне. Калі б мой дваюрадны дзед яшчэ жыў, я ў такі спосаб хацела б узяць у яго інтэрв'ю. Яго гісторыя, што ён рабіў у час вайны і пасля яе, уразіла мяне. Я пераканаíная, што дзядуля Дзмітрый Вайцешык гэта сапраўдны герой.

— Добры дзень, дзядуля! Я бяру ўдзел у конкурсе і хачу расказаць пра асобу, якая з'яўляецца героем. Я выбрала Вас. Ці Вы маглі б расказаць мне пра сваё жыццё ў час вайны?

— Добра, раскажу табе пра вайну. Мяне завуць Дзмітрый Вайцешык, але мая сям'я і ўсе ў вёсцы Габяты называлі мяне Міцька (тут дзядуля ўсміхнуўся). Калі пачалася вайна, мне было 21 год. Некалькі месяцаў пазней мяне прызвалі ў армію. Калі маці аб гэтым даведалася, стала моцна плакаць і не хацела мяне пусціць. Нічога не памагло, я пайшоў у Чырвоную Армію.

— Цікава. А што было потым?

— Пасля забралі ўсіх мужчын з вёскі ў Варшаву. Перад тым прыехалі ў вёску немцы і загадалі забраць нам свае рэчы і ехаць у іншую вёску. А нашу вёску спалілі. Усе сем'і вымушаны былі жыць у зямлянках, бо не было за што збудаваць новую хату, — сказаў сумны дзядуля.

— А што было ў Варшаве?

— Мы туды паехалі цягніком. На пачатку я не пазнаў горада. Ён быў зусім разбураны. 17 студзеня мы выгналі немцаў з Варшавы. Кожнага дня мы праходзілі пешшу па 35–40 кіламетраў. Мы гналі фашыстаў некалькі месяцаў. Кожны дзень быў цяжкім. У палове красавіка, а дакладна 16, мяне паранілі кулямётам «максім». Да сёння маю памятку на спіне. Некалькі месяцаў я ляжаў у бальніцы. Калі мы ўжо вярталіся, я зноў трапіў у бальніцу, гэтым разам у Познані. Толькі пасля двух тыдняў я вярнуўся дадому. За вайну я атрымаў многа ордэнаў, вось гэты за Варшаву, а гэты ад саветаў.

— А што Вы рабілі, калі вярнуліся ў родную вёску?

— Можна сказаць, што не было мяне амаль пяць гадоў. Калі вярнуўся я з вайны, неўзабаве пазнаў дзяўчыну з Крушынян, Елізавету. Мы з ёю павянчаліся. Разам паставілі хату для маці і маіх двух братоў, які жылі да гэтай пары ў зямлянцы.


Фота Ганны Кандрацюк

Бацьку замардавалі каля Бераставіцы, а маіх двух братоў — Пятра і Косцю — пад Варшавай. На маіх вачах немцы забілі Пятра, а я нічога не мог зрабіць, — сказаў дзядуля скрозь слёзы. — Вяртаючыся да тэмы, калі мы збудавалі хату, усе пачалі там жыць. Хатка была невялікая. Праз некалькі гадоў нарадзіліся ў нас дачка і сын. Сяргей і Валя былі добрыя. Хутка выраслі. Але Сяргей вельмі молада памёр, на сэрца. Магда, я хачу ў цябе пра штосьці спытацца.

— Мяне? Пытайце.

— Чаму ты акурат бярэш інтэрв'ю ў мяне?

— Чаму? — пытаюся здзіўленая. — Вы для мяне — герой. Вы былі на вайне, змагаліся з ворагам, былі раненыя, памаглі сваёй сям'і, многа працярпелі, а ў Вас далей моцны характар. Вы заўсёды найперш думалі пра іншых, а потым пра сябе. Я захоплена ўсім тым, што Вы зрабілі і якія Вы. Я ганаруся тым, што такі чалавек ёсць у маёй сям'і — герой на вайне і ў жыцці.

Шкада, што я гэтых слоў не магла сказаць Дзядулю Міцю!

**Магдалена Вайцешык — III клас Гімназіі ў Нараўцы**



## Польска-беларуская крыжаванка

№ 45-2018

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 41-2018:**

Дождж, год, хлеб, ліс, род, плёткі, эй, клён, Ас, брат, кран, жанр, рай, там, на, Лі, халасцяк. Хрэн, лой, крах, дзед, брама, край, план, на, ды, лёт, пас, лён, гіт, чапля, іскра.

Узнагароды, наклейкі, выйгралі **Зузанна Мішчук, Кацярына Сурэль** з Арэшкава, **Дар'я Несцярук, Патрыцыя Нявінская, Алівія Мілеўская** з Орлі, **Вікторыя Гаць, Дам'ян Карнілюк** з Бельска-Падляшскага. Віншуем!

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Łoże | | Szczyt | | Sto | Akordeon | | |
| | Szyfr / Kompot | Listopad | | | | | | | | |
| | | | | | Hamak | | Punkt | Idol | | Ślepa uliczka |
| | Miodzik | Dużo | | Kat | | Bandaż / Ostrze | | | | |
| | Czekolada | | | | | | | | | |
| | | | Jemioła | | | | | | | |
| Foto | Tom | | Miednica | | | | | | | |
| | | | | Wieloryb | | | | Jak | | |

# Вершы
## Жэні Мартынюк

### Два сэрцы

Два сэрцы
нібы аднолькавыя
аднак розныя.

Адно, як агонь,
другое як лёд.
Два сэрцы –
дзве невядомыя.

Давай спалім успаміны
аж сіваю грывай
дым закружыцца.

Мо ашчаслівім дні
аблітыя слязьмі,
перапоўненыя ўздыхам.

Ці лягчэй сэрцам жыць будзе?

### Шчасце

Хвіліна шчасця –
яна струной
нябачнай асалоды.

Што ж для шчасця трэба?

Акраец неба
каб зняволіцца хваробе.
Яна ў нас, для нас
у нашай зямной знямозе.
Гарыць жаданнем палкім
і распранае на марозе.

### Купалле

У Купальную ноч
стаць бы мне
тваёй кветкай папараці
каб ашчасливіць штодзённае жыццё,
каб выгнаць з гаротнага сэрца
журботныя думкі
што сцелюцца павуціннем
па лясных імхах,
каб у кроплях вячэрняй расы
што сплываюць самотай з вачэй,
схапіць прывабнасць ночы
і засвяціцца светлячкамі
у тваіх закаханых вачах.

* * *

Сцелецца снег
пуховай пярынай,
сняжынкі кружаць
у танцы з ветрам.
Святляную дарогай,
белай чысцінёю
у царкву вядзе
мяне зіма прыгажуня
дзе звон як сэрца б'е,
дзе крыніца веры выплывае,
душа свячой палае.
Так хочацца спазнаць мне
тую дабрыню нябесную
падараваную Богам.
Я добра знаю,
мне блізка да яе,
я пры канцы зямной дарогі,
а нада мною
зорка з хутара засвеціць.

* * *

Пчаліна рупіцца
у духмяным водары
вясны,
падбірае кветкам
салодкі пацалункак.

Калі слязой
свячы
адплывуць грахі
з душы
настане мой
світанак.

# Хор гэта радасць



Размова з **Аляксеем СНІТКО**, дырыжорам Канцэртнага хору Мінскага дзяржаўнага музычнага каледжа імя Глінкі, які сёлета ўдзельнічаў у XXXVII фестывалі царкоўнай музыкі ў Беластоку.

**— Як Вы бачылі беластоцкі фестываль царкоўнай музыкі?**

— Мы адразу рыхтаваліся з улікам таго, што ўзровень конкурсу надта высокі, а якасць харавой гучнасці калектываў, якія сюды прыязджаюць таксама вельмі высокая. Гэта для нас і цікава, не толькі сам прыезд сюды, але і доўгі працэс падрыхтоўкі. Больш таго, сама праграма духоўнай царкоўнай музыкі заўсёды аставіць вельмі высокія патрабаванні да якасці выканання, да ўзроўню падгатоўкі спевакоў, дырыжора. Таму гэта асабліва для нас, мы хваляваліся, доўга да гэтага рыхтаваліся і нам пашчасціла, што мы зноў трапілі на самае сапраўднае свята царкоўнай музыкі.

**— Мне здаецца, што Вы прыехалі з іншым ансамблем, чым тры гады таму; тады, здаецца, было «Канчэрціна». Што ў вас памяняласяя?**

Так. На самой справе нічога не памянялася. Проста я кірую трыма харавымі калектывамі: дзіцячы хор «Тоніка», жаночы камерны хор «Канчэрціна», з якім мы ўжо прымалі ўдзел у гэтым цудоўным конкурсе, а зараз я яшчэ працую са змешаным хорам, які ў нас называецца Канцэртны хор Мінскага дзяржаўнага каледжа імя Глінкі. У гэтым хоры навучаюцца дзеці, якія рыхтуюцца стаць будучымі харавымі дырыжорамі. Яны навучаюцца ва ўзросце ад 15 да 18 гадоў. І для іх асабліва цікава было прыняць удзел у такім прэстыжным конкурсе. Таму для іх гэта будзе досвед на ўсё далейшае жыццё.

**— Чаму называецца змешаны?**

— Змешаны ён па свайму складзе, а назва калектыву — Канцэртны хор. Таму што гэты хор прымае ўдзел у шматлікіх канцэртных мерапрыемствах, супрацоўнічае з аркестравымі калектывамі ў Беларусі, а таксама з калектывамі з іншых краін, такіх як Нямеччына ды ўдзельнічае ў шматлікіх праектах. Вось таму назва нашага калектыву Канцэртны хор Мінскага дзяржаўнага музычнага каледжа імя Глінкі.

**— Дыяпазон вашай творчасці напэўна шырокі, але больш дакладна, якія ён уключае жанры.**

— Мы спяваем усе жанры, у якіх існуе харавая музыка. Гэта і сярэдневяковая манодыя, і каталіцкая, і праваслаўная. І музыка эпохі Адраджэння, і музыка эпохі барока, і класіцызм, і рамантызм. І таксама мы выконваем сучасную музыку. Вось у прошлым годзе мы выступалі з двума канцэртамі ў кракаўскай і познаньскай акадэміях музыкі і выконвалі творы сучасных кампазітараў Польшчы і Беларусі, такіх як Войцех Відлак, Марцэль Хажынскі, Агнешка Здрой-Сухадольская, Лідзія Зялінская. Ну, а беларускія кампазітары — Ігар Янкоўскі, Яўген Паплаўскі, Алена Атрашкевіч, Андрусь Якушаў. Нашай мэтай было пазнаёміць польскіх слухачоў з сучаснай музыкай Беларусі і самім даведацца больш пра сучасную музыку Польшчы. А потым польскія кампазітары прыязджалі да нас у Беларусь і мы ладзілі сумесны творчы праект; музыка гучала ўжо ў Мінску. Таму мы вельмі зацікаўлены ў культурным абмене, так як я лічу, што нашы народы непарыўна звязаны аднымі каранямі і такое знаходжанне нашых краін проста абавязвае нас ведаць культуру суседніх краін і дзяліцца, знаёміць са сваёй культурай нашых сяброў, нашых суседзяў. Таму для нас гэта вялікі гонар мець такую магчымасць.

**— Гісторыя гэта ўсё ж такі праніканне мастацтва. Скажыце яшчэ, ці ў вашым рэпертуары толькі класічная музыка, ці ёсць яшчэ і больш лёгкія жанры: эстрадны ці фальклорны?**

— Фальклорны так. Мы выконваем апрацоўкі беларускіх народных песень, асабліва мы аддаём перавагу цікавым прафесіянальным апрацоўкам беларускіх народных песень, напрыклад, якія піша Алена Атрашкевіч. Таксама мы спяваем крыху джазавай музыкі, апрацоўкі афра-амерыканскіх песень, спірычуэл. Але асноўны ў нас ухіл усё ж у акадэмічную музыку, сур'ёзную, прафесійную, таму што нашы спевакі гэта будучыя прафесіяналы, будучыя дырыжоры. І, канешне, для нас вельмі важна, каб яны асвойвалі сваё рамяство, сваю прафесію і былі сапраўднымі прафесіяналамі сваёй справы.

**— Дзякую сардэчна. А можа ад сябе Вы нешта хацелі б сказаць, такому папулярнаму чытачу, неабавязкова з музычнымі ведамі.**

— Я ўпэўнены, што харавая музыка, гэта, па-першае, адзін з даўнейшых жанраў музычнага выканаўства. І я ўпэўнены, што гэты жанр будзе толькі расцвітаць, таму што ён аб'ядноўвае людзей, ён нясе не толькі музыку, але і слова. Ён дае магчымасць ствараць высокадухоўныя творы разам; і гэта вялікае шчасце. Таму, калі мы аб'ядноўваемся, калі ў нас ёсць магчымасць яшчэ разам паглядзець, пазнаёміцца з другімі краінамі, выступіць перад слухачамі, то гэта вялікае шчасце. Таму я ўпэўнены, што важныя спевы ў хоры, неабавязкова прафесійным, таксама вельмі важна, каб развівалася і самадзейнае мастацтва. Хор гэта радасць, гэта радасць зносін і сустрэч друг з другам, сустрэч з высокім мастацтвам. Таму хочацца пажадаць усім, каб гэта мастацтва дакраналася да сэрцаў чытачоў вашай газеты.

**— Дзякую. І можна сказаць, што харавая музыка аб'ядноўвае душы — гэта ж фестываль пяючай душы...**

— Так. Я лічу, што вельмі вялікае шчасце для горада Беластока, што ў ім ладзіцца такі сапраўдны музычны форум. Таму, што арганізатарам гэтага цудоўнага фестывалю ўдаецца аб'ядноўваць такія выдатныя творчыя калектывы. І дае магчымасць жыхарам гэтага горада, гасцям гэтага горада пачуць цудоўную музыку, раскошную музыку, у якой ёсць адбітак сапраўднай глыбіннай духоўнасці. І духоўнасць, якая дайшла да нас у Бібліі і самі тэксты, якія пакладзены ў аснову гэтых твораў, гэта ўжо сапраўднае цуда для нас. Таму віншую ўсіх жыхароў і гасцей Беластока з такім цудоўным творам і жадаю, каб і надалей гэта расцвітала і ладзілася яшчэ многа-многа гадоў.

**— Вялікае Вам дзякуй.**

Гутарыў **Аляксандр ВЯРБІЦКІ**



Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ

# Маркотныя зоркі ўспамінаў у Меляшках



Паміж Гарадком і вёскай Меляшкі, што расклалася на старажытным грудзе, больш як паўстагоддзя таму была мокрая даліна, кажуць, можа і возера. За стадоламі гэтай доўгай вёскі высяцца два таямнічыя курганы, якія тут называюць „могілкамі". Пра гэтыя «могілкі» ўжо ўспамінаюць новыя меляшкоўскія дзеці, што прыехалі сюды жыць з бацькамі, якія ўпадабалі сабе вёску на ўскраіне Кнышынскай пушчы. Тое возера ўявіць няцяжка — хопіць узабрацца на тыя „могілкі" і маем панараму як па люстры вады, — аж да ззяння гарадоцкай царквы. З крыніц ведаем, што ўся ваколіца мела дачыненне да старажытнага роду Хадкевічаў. Рыгор Хадкевіч за землі каля мястэчка Васількава, якія перадаў каралю, атрымаў ад Сігізмунда Аўгуста 22 сакавіка 1567 г. вёскі каля Гарадка — Белявічы, Супрасль Мсцібогаўскую (сёння Зарэчаны) і Меляшкі.

Меляшкі, першую вёску на Беласточчыне, дзе па абодвух баках вуліцы паклалі тратуары, калісь усе прыбіралі гуртом пад святы — царкоўныя і Першамаі. Замяталі дзеркачамі і брук, і тратуары. Цяпер зрэдчас каровы любяць прайсціся якраз не па бруку, а па ходніку. І не вельмі каму ёсць так салідна прыбраць сляды іхняй натуральнай дзейнасці. Ды і зрэдчас паяўляецца тут карова. «О, калісь мы, малыя, выганялі кароў на пашу, на выганы, і пасвілі ў калейцы, — кажа Мірка Антановіч, ад роду Кастэнцік, цяпер з Гарадка. А пад Спленне ў Меляшках заўжды — баль! Пры славутых крыжах, што паставілі і размалявалі сябры „Зоркі", бацюшка служыў малебен. За ўсіх жывых меляшкоўцаў, якіх у апошні час перастала ўбываць. А гуляць яны і любілі, і любяць. Толькі чакаюць нагоды, нейкага свята, каб пачаставацца і пасмяяцца разам... Але гэтых крыжоў, што з Лёнікам Тарасэвічам (ягоная мама адсюль) размалёўвала «Зорка». Стухлі колеры ікон на іх, і ўрачыста іх спалілі, а паставілі новыя... А пасярод вёскі, пры краме — святліца. Тут сабрацца трэба ўсім, хоць Марта Герасімчук у першы момант казала: „Не пайду я на герыятрыю!" Вядома, каго мела на думцы беластоцкая дзеўка, якая ўсё ж загляне пасля на новую імпрэзу. Цяпер яна маці і са сваім мужам пераняла бацькоўскую хату, дзе звычайна жыве яе дзядзька Андруша, будаўнік, які даязджае штодзень на працу ў Беласток; на сваёй машыне, бо ж аўтобусы сюды не ходзяць. А быў калісь аўтобус проста з Беластока ў Меляшкі, быў яшчэ такі, што ехаў у Вейкі, і з Белявіч трэба было ісці з паўтара кіламетра ў вёску пасярод палёў, аздобленых бетонным «стоўнхенджам» пасляпэгеэраўскіх падмуркаў. А ў той святліцы, дзе дзесяцігоддзямі дружна і з фантазіяй гулялі старыя і малыя меляшкоўцы, сёння мы спатыкаемся на завяршэнні праекта сацыёлагаў і культуразнаўцаў Каі Койдэр і Міхала Дэмскага (яго мама родам з Белявіч) — «Меляшкі калісь»... І яны таксама перасяліліся з Варшавы пад Крынкі, а іхні сын Ясь стаў вывучаць беларускую мову.

— Для вёскі добра зрабілі, як тую святліцу гарадоцкая культура адрамантавала, моладзь ёсць, будзе каму гуляць. Ужо па нашым пакаленні будзе меў хто нас заступаць. Каб гэта ніц не згінула, — кажа Коля Кастэнчык, сёння не такі гаваркі, як заўсёды. — Ведаеш, колькі меляшкоўцаў з альбома Паўліка Грэся няма ўжо жывых? Можа з дваццаць чалавек, можа больш. Фаня Барода першая памерла, яшчэ як ён альбом рабіў. Яшчэ на не васьмідзесяцігоддзе крыху раней уся вёска гуляла ў старой святліцы. Чалавек не ёсць вечны. Тут у нас цётка што каля дуба жыла — да ста гадоў дацягнула, але ўжо ў Беластоку жыла. Во Верка Лявіцкая памерла ў 97 гадоў, тая, што іграла ролю знахаркі ў «Крэсавай баладзе». З Кастэнчыкаў ужо я адзін застаўся. З майго радзіннага альбома найбольш здымкаў на сайце «Mieleszki — Меляшкі», што на фейсбуку.

Так, о, гаварылі:

— Коля, ці ты спадзяваўся, што будзе тут столькі дзяцей?





— Многа пакупляла ў нас хат. Ды яны ўсе — католікі.

— У Меляшках заўсёды можна было гаварыць па-свойму. І малыя, і маладыя ведалі мову...

— Што па-нашаму мала тут гаворыцца? — Віктар Лотыш, стары солтыс упэўнены: — Гэта самі мы ў гэтым вінаватыя. Бо паміж сабою гаворым па-свойму, а да дзяцей — па-польску. Не палагаецца нам, людзям, каторыя згэтуль...

— А ці мы так добра знаем гэты беларускі? Я вучылася ў пачатковай школе, — кажа Вера Трахімчык. — Рускай то лепш валодаю.

— Не, не. Мы ж маем наш свойскі, натуральны язык, — мяркуе дзядзька Віктар.

— Паявілася з дзевятнаццаць новых радзін, што вы аб гэтым думаеце?

— Гэта ўсё каталікі. Чаго тут шукаюць? Шукаюць, дзе танней купіць.

— Калісьці ў нас католік быў Бронак, Дамброўскі, Бронкава Ганна жыла хіба сто лет. Яна дваццаць першы рочнік, ужо жыла ў Нінкі, у дачкі. Нашай маме ішоў 94 год, была пры памяці, можа каб таго разрушніка не ўставілі, то яшчэ жыла б... — мяркуе яго жонка Ліля.

— Па культуры трэба, каб след застаўся, — кажа пані Вера. — У нас шмат здымкаў старых было, пытаюся ў мамы: хто на іх, а яна нікога ўжо не магла распазнаць. Старасць...

— Гэту хату Васілёву — хата нумар 37 — купіў з Элка чалавек, за граніцаю робіць. Ужо 19 новых сем'яў пасялілася ў Меляшках, дзве толькі што, — кажа Сяргей Госцік. — Зусюль іх панаязджала. І не спадкаемцы, а проста пакуплялі. Маладых іх многа. І не так каб на лета, на дачы хаты куплялі, а проста жывуць. Адна дахтарыца, другі ў вайсковасці... Тут каля дуба — Марцінчык. Пастаянна жыве, мае двое дзяцей, самаходы прадае, купляе. Такое месца для жыцця знайшлі. Кажуць, спакойна ў нас. Хутчэй да Беластока даедзеш, як цераз увесь Беласток праедзеш. Самаходам на працу едуць, бо раніцай аўтобус не едзе. А вярнуцца — то да Гарадка. Калісь пэкаэс даязджаў сюды папоўдні, ды знеслі яго. Але самаходам многія ездзяць, заўша хтось падвязе.

Андруша Пятэльскі прынёс свой хатні альбом з фатаграфіямі. Многія з іх таксама апынуліся на меляшкоўскім сайце. Хто яго вядзе? Адзін хлопец з мамай. Людзі давяраюць, даюць сямейныя здымкі, пішуць. А ёсць такія, што прысабечваюць дасягненне, крадуць фоткі, ствараюць свае старонкі пра Меляшкі. Людзі пастаронія, або і тыя, хто хоча вярнуць сабе памяць пра родную вёску, не ведаюць, каторы з тых сайтаў сапраўдны. А даюць свае сямейныя, самыя дарагія здымкі, падмаляваныя фоты малададжонаў, і кожны можа ўвайсці на сайт, разгадаць хто на здымку, рассакрэціць праўду. А што тое «родо»? Сёння, вось, Кая таксама паказвае фільм, і непадпісаны ён, пра вынікі іхняй працы ў збіранні ўспамінаў і час дзяцінства ў навакольных вёсках. На сцяне высвечваюць фільм, дзе жанчына з Ялоўкі расказвае пра калісьняе жыццё, гледачы, якіх сабралася столькі, як у найлепшыя часы, месцаў на лавах і крэслах не хапае, жыва рэагуюць: «Праўду кажа! Так калісь было! А гаворыць яна па-нараўчанску!» Што тут засакрэчваць, хто выступае, суседка ж, што тыя новаеўрапейцы панавыдумоўвалі!»

— Пасля першага перапісу ў 1921 годзе вёска Меляшкі ў Беластоцкім павеце налічвала 50 хат і пражывалі ў ёй 292 чалавекі. Амаль усе жыхары, лікам 291 асоба, дэкларавалі праваслаўнае веравызнанне, а адзін чалавек назваў сябе бесканфесійным. Усе жыхары дэкларавалі тады беларускую нацыянальнасць. Не «тутэйшую». А цяпер тут як з нацыянальнасцю? Як гавораць у Меляшках?

— Паявілася многа сем'яў з малымі дзецьмі. Ці будуць умець гаварыць па-беларуску? Ой, хіба не. Тут многа з Мазур прыехала, між іншым з Гіжыцка. Ёсць і з Торуні, — кажа Крыся Пятэльская.

— Тут шмат людзей умірала, маючы сто гадоў. Ліда Госцік, баба Люба Лавіцкая, Вера Лявіцкая, баба Марыся... Добрае месца на жыццё. Дзе тут убачыш самаход — у канцы вёскі ўсюды лес, усюды свежае паветра. Няма якойсь фабрыкі. Брукаванка, як калісь, праз усе Меляшкі. Хацелі рабіць асфальт. Кажу: нашто той асфальт, каб смярдзела асфальтам? Брукаванка — хутка не папруць! А ў нашай былой школе нават была спроба зрабіць фабрыку... італьянскага абутку. Нічога не выйшла, нішчэ, хоць ты плач. Кабеты заўсёды тут актыўныя былі.

— Цяпер, вось не так, як калісь было, — кажа солтыска Леаніла Лавіцкая, што прынесла ў святліцу салодкі пачастунак. — Не так дружна.

Ці будзе калі-небудзь «як калісь?» Як калісь, пакуль жылі сястра Янука Да-

працяг ☞ 11

# Сардэчнае залатое вяселле ў Орлі



**У чацвер, 4 кастрычніка, у банкетнай зале „Маэстра" ў Орлі адбылася ўрачыстасць уручэння медалёў 50-годдзя з дня шлюбу. Пары юбіляраў, а таксама і адзінокія, без пары, ды нешматлікія сем'і сустрэліся з уладамі Арлянскай гміны. Былі хваляванні, букеты кветак, сувеніры, шампанскае і салодкі банкет ды супольны здымак.**

У Арлянскай гміне (так як і ў іншых) з году ў год меншае лік насельніцтва. На дзень 4.10.2018 г. у цэлай гміне пражывала (на пастаяннай і часовай прапісцы) толькі 2863 асобы; дзеля параўнання: у 1998 годзе — 3967 асоб, а годам да таго 4091 чалавек, ды ў самой Орлі жыло пад дзве тысячы жыхароў. У гміне большасць насельніцтва складаюць пажылыя людзі, у іх ліку шмат васьмідзесяцігодкаў. Сужонстваў, якія супольна пражылі больш за пяцьдзясят гадоў, шмат. І тут варта падкрэсліць, што ранейшыя пакаленні не практыкавалі разводаў, нават калі былі перыяды сепарацыі. Усе гэтыя людзі прайшлі г.зв. натуральную селекцыю, раслі яны ў цяжкіх умовах, калі медыцына была на ніжэйшым чым сёння ўзроўні і з іх выжывалі найздаравейшыя. Аднак у сямейным сужыцці не ўсім суджана дачакацць залатога юбілею.

На сёлетняе мерапрыемства Управа Арлянскай гміны падала заяўкі на ўшанаванне пятнаццаці пар. Што цікавае: роўна па васямнаццаць пар было ў 2005, 2006, 2008, 2009, 2010 і 2016 гадах. На сустрэчу з'явілася толькі дзесяць пар.

Пасля выслухання кароткага фрагмента «Вясельнага марша» Мендэльсона да юбіляраў звярнуўся войт Пётр Сэльвесюк:

— Дастойныя юбіляры, шаноўнае спадарства! Перш за ўсё дзякую за прыняцце запрашэнняў на сённяшнюю ўрачыстасць. Юбілей 50-годдзя гэта час падвядзення таго, што было і таксама планаў на будучыню. Пяцьдзясят гадоў здаецца быць і доўгім перыядам, а з іншага пункту гледжання здаецца, што яны так хутка праміналі. Усе помняць той момант, калі бралі шлюб, калі ехалі да шлюбу, і тыя прыгожыя моманты ў жыцці, і тыя горшыя, бо жыццё гэта не толькі плюсы; у жыцці па-рознаму бывае. Віншую вас, што ўдалося вам супольна пражыць пяцьдзясят гадоў; не ўсім гэта наканавана. За той час вы паўна дачакаліся дзяцей, унукаў, праўнукаў; і гэта ёсць чысты прыбытак да сужонства. Віншую вам, а галоўным чынам жадаю здароўя, каб супольна дачакаць чарговых юбілееў, якія таксама важныя.

Скажу далей, бо многа езджу па гміне — што вы мелі нажыць, тое нажылі. Зараз настаў час, каб больш прабываць са сваімі дзяцьмі і ўнукамі ды перадаваць тую мудрасць, якую вы набылі цягам свайго супольнага жыцця. Кожны хацеў бы быць энергічны, здаровы і малады, а з другога боку мець тыя веды і вопыт, якія маеце, аднак гэта немагчыма. Чалавек вучыцца ўсё жыццё, набывае сваю мудрасць і добра было б перадаваць яе далей. Жадаю здароўя вам і вашым сем'ям.

Пяцьдзясят гадоў згодна пражылі: Надзея і Дзмітрый Бобікі, Марыя і Яўген Дружбы, Кацярына і Уладзімір Рагозы, Марыя і Аляксей Томчукі з Крывятыч, Ніна і Міхал Буракі, Анеля і Аляксандр Марціновічы з Кошак, Ніна і Уладзімір Міхалюкі з Вулькі-Выганоўскай, Крыстына і Пётр Пятроўскія з Дыдулёў, Лідзія і Уладзімір Сахарчукі са Спічкоў, Валянціна і Мікалай Савіцкія са Шчытоў ды непрысутныя на мерапрыемстве Галена і Сцяпан Міронручкі, Анна і Уладзімір Баршчэўскія з Малінінк, Вера і Мікалай Кадлубоўскія з Градалёў, Ніна і Ільяя Дажынкі з Кашалёў, Вольга і Аляксей Багацэвічы з Орлі.

Пасля ўручэння медалёў, букетаў кветак і пакетаў з ручнікамі (адсутным гміна медалі і сувеніры завязе дамоў), юбілярам паднеслі па келіху шампанскага, а войт Пётр Сэльвесюк пажадаў многіх далейшых гадоў жыцця. Затым папрасілі ўсіх сесці за супольны вялікі прыгожа прыбраны на белы колер стол, на якім красаваліся салодкае печыва, мясныя і рыбныя закускі, халодныя ды гарачыя напоі. На пачатак госці паабедалі, з'елі суп і другую страву, у чаркі налілі гарэлку і віно. Юбіляраў павіншаваў войт Пётр Сэльвесюк.

Мастацкую частку, вельмі багатую і цікавую, прыгатавілі наймалодшыя арлянскія школьнікі з калектыву „1/3", якімі апякуецца настаўніца Альжбета Цюлькевіч. Дзеці выступілі з песнямі на беларускай мове, а таксама танцавалі і прэзентаваліся з выкананымі імі рэквізітамі — вялікімі папяровымі кветкамі.

працяг ☞ 11

ЛІТРАДЫЁ

# http://litradio.by

Амаль дзесяць гадоў таму „Ніва" пісала пра ўнікальную з'яву ў Байнэце. Тады ў ім узнік сайт так званага літаратурнага радыё. Запісы вершаў і апавяданняў разнастайных беларускіх паэтаў і пісьменнікаў з таго часу можна было пачуць запісанымі галасамі гэтых творцаў.

Звычайна, далёка не кожны падобны праект жыве доўга. Мноства тых, пра якія было гучна заяўлена на пачатку, потым зышлі ў нябыт, не пакінуўшы пасля сябе нават памяці. У выпадку з „Літаратурным радыё", якое месцілася ў інтэрнэце па адрасе http://litradio.oko.by, такога не адбылося, але некаторыя змены там мелі месца.

Пасля таго, як мінула сем гадоў з моманту ўзнікнення радыё, яго сайт займеў іншы дызайн і, што найбольш важна для пошуку партала — новы адрас у інтэрнэце. Цяпер „Літаратурнае радыё" месціцца па адрасе **http://litradio.by**. З ягонай галоўнай старонкі знік расповед пра тое, што з сябе ўяўляе праект, як і тое-сёе пра аўтарскія правы. Не стала падзелу на рубрыкі. Цяпер карыстальніка сустракае галоўная старонка, падзеленая на дзве часткі. У першай месяцца анансаваныя спасылкі на гукавы файл з запісам таго ці іншага твора, а на другой, правай, пад назвай „Фанатэка" даецца алфавітны пералік аўтараў, чые вершы ці апавяданні можна праслухаць на „Літаратурным радыё".

У 2015 годзе, калі адбыўся рэдызайн сайта, яго стваральнікі лічылі, што гэтыя змены зробяць праект больш прывабным і запатрабаваным. База аўдыёзапісаў была перанесена на SoundCloud. Да таго часу змяніўся кіраўнік сайта, які яго стварыў — Павел Анціпаў. У 2013 годзе на яго месца прыйшла паэтка Наста Манцэвіч, а з 2014 года куратарам праекта стаў паэт і музыкант Улад Лянкевіч.

„Калі я пачаў займацца радыё, усё пачало мяняцца. Пагадзіцеся, што немагчыма любіць творчасць ста пяцідзесяці чалавек аднолькава. У нас можна знайсці рэчы, да якіх рэдактар ставіцца неадназначна. Бывае такое, што кнігу аўтара я на сваім стале не пакладу, але прызнаю, што гэта мусіць быць у эфіры. Нярэдка даводзіцца прымаць няпростае рашэнне: варта ці не размяшчаць таго ці іншага творцу. Але мы расцем, цяпер карціна ўжо значна менш падпарадкаваная адной густавай лініі. Бывае, што аўтары самі прапануюць свае творы, але звычайна я сам звязваюся з пісьменнікамі. Усе збольшага пагаджаюцца, носам не круцяць", — распавёў Лянкевіч у 2015 годзе сайту „Медыякрытыка.by". Паводле яго, на сайце „Літаратурнага радыё" зараз пераважае паэзія.

„Літрадыё" — гэта архіў. Вельмі істотна тое, што пісьменнікі самі чытаюць свае тэксты. Калі чытаеш нечый твор, чуеш толькі асабістыя інтанацыі. Але цікава пачуць, як гэты тэкст чытае сам аўтар! Для мяне было шмат нечаканых момантаў, калі я параўноўваў сваё чытанне твора з агучваннем яго аўтарам. Тое, што здавалася гучным, разлічаным на стадыёны, выяўляецца камерным і асабістым, а тое, што здавалася інтымным, раскрываецца з іншага боку", — кажа Лянкевіч.

На жаль, не ўсё змены, звязаныя з рэдызайнам сайта, прывялі да паляпшэння. Так, запісаныя гукавыя файлы не датаваны, з чаго немагчыма даведацца, калі яны былі зроблены. Таксама невядома, якія запісы дадаліся на сайт апошнім часам і ці дадаваліся ўвогуле.

Аляксандр ЯКІМЮК

Дата з Календара

Падзеі і асобы БНР

# 80 гадоў з дня гібелі Уладзіміра Тэраўскага

Беларускі кампазітар, харавы дырыжор, фальклрыст Уладзімір Тэраўскі, які стаяў ля вытокаў стварэння нацыянальнай оперы і нацыянальнай музычнай школы, нарадзіўся 23 лістапада 1871 года ў мясцовасці Раманава на Случчыне. Быў малодшым сынам у сям'і праваслаўнага святара Васіля Тэраўскага, які служыў настаяцелем храма ў Раманаве і кіраваў царкоўным хорам.

Уладзімір Тэраўскі ў 1889 г. скончыў Слуцкае духоўнае вучылішча. Вучыўся ў Мінскай епархіяльнай семінарыі. У 1892-1895 гг. служыў у войску. Пасля дэмабілізацыі — дзяржаўны кантралёр Лібава-Роменскай чыгункі. З 1897 г. працаваў на Уральскіх заводах графа Строганава, служыў рэгентам, настаўнікам у Пермскай губерні. На Урале кіраваў аматарскімі рабочымі харамі на чыгуначных заводах і спяваў у хоры, у рэпертуар якога ўваходзілі і беларускія песні. З 1900 г. супрацоўнік Мінскага аддзялення дзяржаўнага банка. З 1901 г. канцылярскі чыноўнік кантрольнай палаты, адначасна настаўнік спеваў і гімнастыкі Губернскага папячыцельства дзіцячых прытулкаў. У 1904 г. прызначаны псаломшчыкам Мінскага кафедральнага сабора і памочнікам рэгента Мінскага архірэйскага хору. Потым псаломшчык царквы Марыі Магдалены, настаўнік спеваў Мінскага прыходскага вучылішча. Быў сябрам Беларускай асацыяцыі стваральнікаў мастацкіх твораў.

У ліпені 1914 г. стварыў адзін з першых беларускіх харавых калектываў — Мінскі беларускі хор, які ў 1917 г. увайшоў у склад Першага Беларускага таварыства драмы і камедыі, узначальваў яго музычную частку. Супрацоўнічаў з мастацкай трупай „Беларускі народны тэатр" Францішка Аляхновіча. Браў удзел у арганізацыі культурна-асветнага асяродка пры „Беларускай хатцы". Выступаў перад дэлегатамі з'езда беларускіх партый і арганізацый у ліпені 1917 г. Увосень 1919 г. па запрашэнні Усевалада Ігнатоўскага працаваў выкладчыкам Мінскага педагагічнага інстытута.

У 1918-1919 гг. кіраваў харавой капэлай у Беларускім савецкім тэатры, уваходзіў у склад Таварыства працаўнікоў беларускага мастацтва. 19 верасня 1919 г. у Мінск прыехаў Юзаф Пілсудскі. З той нагоды ў мінскім гарадскім тэатры адбыўся спектакль, у якім выступаў і хор Тэраўскага, ён заспяваў песню на верш Макара Краўцова „Мы выйдзем шчыльнымі радамі", якая на афішах была пазначана як „беларускі гімн".

Улетку 1920 г. арыштаваны польскімі ўладамі ў Асіповічах за выкананне „крамольных" песень, пры ім быў знойдзены рэвальвер. Пасля ўтварэння Беларускага дзяржаўнага тэатра яго галоўны хормайстар. У 1919-1920 гг. — сябра Часовага Беларускага нацыянальнага камітэта ў Мінску. Працаваў лектарам на настаўніцкіх курсах. Складаў спеўнік для беларускага войска, які выйшаў асобнай кніжкай у 1921 г. („Беларускі спеўнік з нотамі на тры галасы паводле народных мелодый"). Наступная кніга — „Беларускі лірнік", выдадзена Зміцерам Жылуновічам у Берліне ў 1922 г. Праз 4 гады ў Мінску выйшаў яшчэ „Вайсковы зборнік".

Першы раз саветы арыштавалі Тэраўскага з жонкай у верасні 1921 г. Пасля вызвалення ў траўні 1923 г. кіраваў рознымі харавымі калектывамі. Прымаў удзел у рабоце музычнай секцыі Інбелкульта. У 1930 г. расфармавалі хор Тэраўскага пры Белдзяржуніверсітэце, а ў 1931 г. яго звольнілі з працы ў БДТ-1, звінаваціўшы ў нацыянал-дэмакратызме. Жыў у беднасці, служыў псаломшчыкам да 1933 г. у царкве ў Пэрэспе. Рэгент царкоўнага хору Мікалаеўскага сабора ў Мінску. Арыштаваны НКВД як „агент польскай разведкі". Расстраляны 10 лістапада 1938 г.

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

10 ☞ працяг Юбіляраў абслугоўвала афіцыянтка ды чаркі напаўняў працаўнік загса. Усё адбылося вельмі культурна, чыста і зладжана. Сеніёры павесялелі, але ў прынцыпе адмаўляліся ад алкаголю. Я, як радны і карэспандэнт, таксама гасцяваў за сталом. Адна жанчына побач пракаментавала багата застаўлены стол: „А што ж, гміна багатая”.

У зале царыла вельмі сардэчная атмасфера. На гэты раз група юбіляраў была ціхая, быццам збянтэжаная. Магчыма, што адчувалі яны сябе няёмка, а магчыма таксама, што адчувалі за сабою веліч пражытага і шкадавалі, што жыццё так хутка праляцела, што не ўсім паслужыла добрае здароўе. Сардэчную атмасферу падтрымліваў войт Пётр Сэльвесюк, які часта звяртаўся да юбіляраў, развесяляў іх не толькі як гаспадар гміны, але і як усхваляваны бацька вялікай сям’і.

Тэкст і фота **Міхала МІНЦЭВІЧА**

9 ☞ працяг

## Успаміны ў Меляшках

рашкевіча Люба Лавіцкая (дажыла без двух тыдняў да соткі), Вера Лявіцкая (ціха адышла ў 97 гадоў) і гарманіст ды фокуснік Юрка Дамань, родам з Плянты (памёр у маі 2014 года). Ставілі тут і п’есы, усёй вёскай, але адно з Юркам як... чараўніцай, а жанчыны прадстаўлялі таксама і мужыкоў! Калісь доктар з Гарадка, Юрка, сын Ларысы Геніюш, пісаў у «Ніве» ў «Меляшкоўскім каравai»: «Аматарская пастаноўка сапраўднага вясковага вяселля расславіла ў апошні час вёску Меляшкі ва ўсім беларускім і не толькі беларускім асяроддзі. Не адзін глядач першы раз у жыцці скаштаваў па-дзявочаму чыстае, народнае цеста — каравай... Мала хто аднак ведае пра тое, як і на штодзень бойкае меляшкоўскае месіва буйна булькае, падрастае і лепіцца па-новаму, дзякуючы жвавым рукам мясцовых кабетак: *Расці, расці каравай, цыцаты, бо ляпілі цябе каравайнічкі цыцаты*... Паверце мне, не пустыя гэта словы. Мала ў якой вёсцы так добра гадуюцца дзеці, такой струёю льецца ў іх прагныя роцікі мацярынскае малако. Шыкуцяву можна было б ставіць за прыклад усім гарадскім мацеркам. Новы доказ — адмыслова адгадаваныя хлопцы-блізнюкі, што весела брыкаюць па панадворку. Меркай энергіі гэтых некалькігадовых юнакоў могуць служыць шматлікія гузы ды сінякі, прыдбаныя падчас адкрыўчых вандровак і бітваў, вызеных за свабоду малога чалавека... Нездарма штогод у меляшкоўскай школе арганізуецца дзяцінец, які ў працавітую летнюю пару здымае з жаночых плеч найклапатліўшы цяжар. Вялікая ў гэтым заслуга дырэктара школы сяброўкі Літвінавай. Ды не толькі ў гэтым яе заслуга. Гэтая надзвычай энергічная жанчына — не толькі настаўнік. Яна і дарадчык людзям, і паданне напіша каму трэба, і аматарскім гуртком пакіруе. Яна не толькі жыве ў вёсцы, але жыве яе жыццём... А новае ўсё лепіцца. Плешчуцца ў мясцовых сажалках карпы, паяўляюцца кожны год новыя гектары плантацый трускалак, хтосьці і сярэбраных мільёнаў завёў (пчол), расце безупынна пагалоўе хатняй жывёлы. Дзве сям’і ўжо абзавяліся новенькімі «Масквічамі»...»

Разгаманілася святліца, было смеху, і слязу хтосьці ўпусціў. Размалёўвалі на лістах сваю вёску, як хто памятаў. Была адна праца, дзе намалявалі толькі тое, чаго ўжо няма. Цяпер хочуць зысціся і паглядзець фільмы, а сабралася таго ўжо нямала, пра сваю вёску, убачыць яшчэ раз вядомыя да болю твары, пачуць галасы...

— Дзякую, — кажа Янка Карповіч з „Хутара”, родам з Меляшкоў, — перш за ўсё меляшкоўскім жанчынам, з гуртка вясковых гаспадынь, якія вялі тут паспяховую тэатральную дзейнасць, разварушвалі Меляшкі. Гэта дзякуючы ім развівалася культура ў Меляшках. І яна існуе. А як хочацца ўзяць у рукі зборнік Янука Дарашкевіча, «Маркотныя зоркі» надрукаваны ў Мінску ў выдавецтве «Кнігазбор», падрыхтаваны Сяргеем Чыгрыным. Чакаў свайго чытача сотню гадоў.

Войт Гарадоцкай гміны Веслаў Кулеша абяцаў выданне твораў меляшкоўца-нашаніўца на радзіме.

Тэкст і фота **Міры ЛУКШЫ**

## Час на перамены

У Чаромсе будзе новы войт. Гмінная выбарчая камісія паведаміла, што ў другім туры за пасаду войта змагалася двух кандыдатаў — Ежы Шыкула і Ежы Васілюк. Перамог Ежы Васілюк, за якога прагаласавала 739 выбаршчыкаў (51,46%). Контркандыдат набраў 697 галасоў (48,54%). **Віншуем пераможцу! Затым час на перамены ў Чаромсе !!!**

**(ус)**

## Прыязныя чалавеку

Вёска Скупава Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета распалажана на вялікай паляне Белавежскай пушчы. Яна падзелена на дзве часткі — Новае і Старое Скупава, на г.зв. калёнію і раскінутыя там-сям пасярод палёў і пад лесам дамы. Што цікава: у далінцы паміж дзвюма часткамі вёскі бярэ пачатак лясная рачулка Акулянка, прыток Нараўкі. Падчас Другой сусветнай вайны немецкія акупанты спалілі вёску — 160 двароў. Яна адрадзілася нанава. Зараз сяло налічвае 131 дом і 190 жыхароў.

— У ціхай вялікай вёсцы Скупава шмат драўляных дамоў, якія найбольш прыязныя чалавеку. Цешаць вока дамы з упрыгожаннямі, між іншым, Роберта Юркевіча, Марціна Радзіванюка, Валянціны Германюк, Зіны і Яўгена Рэентаў, Віялеты Бандарук, Яраслава Гончара (ён шафёр праваслаўнага мітрапаліта Варшавы і ўсяе Польшчы Савы) і Эвы Марыі Ружанскай, — паінфармаваў солтыс Кшыштаф Кайдэвіч.

Да нядаўна адным з цікавых драўляных будынкаў па архітэктуры лічылася прызабытая апусцелая школа. Але да яго разбурэння спрычыніўся пажар. Я памятаю тую школу. Некалі заходзіў да дырэктара і настаўнікаў у канцылярыю. Вельмі шкада, што так сталася.

**(яц)**

## Агарод Браніцкіх

Сёлета ў прыгожым агародзе за палацам Браніцкіх у Беластоку паставілі дванаццаць скульптур з выявамі знакаў задыяка, між іншым, Барана, Блізнят, Быка, Казярога, Вадалея, Скарпіёна, Стральца і Шаляў ды Стыхіі Агню, Стыхіі Вады і Стыхіі Зямлі — усе яны на каменных пастаментах. Выканаў іх з пясчаніку артыст-разьбяр Рыгор Квапісевіч з Сухэднёва. Некаторыя былі прывезены ў Беласток нядаўна — напрыканцы кастрычніка гэтага года.

Варта дадаць, што ў XVIII стагоддзі ў агародным салоне за палацам было звыш двухсот скульптур. Частка з іх была драўляная. Выконвалі іх разьбяры пад наглядам тагачаснага вядомага скульптара Яна Хрызастома Рэдлера (ягоныя скульптуры былі перш-наперш міфалагічныя і алегарычныя). Хаця зараз значна менш скульптур у агародзе Браніцкіх чымсьці ў XVIII стагоддзі, то і так захаваны ансамбль з’яўляецца адным з найбольшых у нашай краіне. **(яц)**

# 11.11 — 17.11

**(22.03. — 20.04.)** 12-16.11. дасягнеш таго, на чым табе залежыць. Дома ўсё ўпарадкуеш, непатрэбшчыну выкінеш. Народжаныя ў першай дэкадзе: парабіце змены ў кухні. У хату ўпусці больш святла. Цяжкавата ўставаць з ложка, можа ахапляць смутак без дай прычыны; хутка рэагуй, каб не развілася хандра; найлепшая падтрымка — сябры. Вечары мінуць у пары ў цяпле каміна і сэрцаў.

**(21.04. — 21.05.)** Будзеш крыху ваяўнічы, паправіш сваю форму. Сур’ёзных дэкларацый ад сваёй палавінкі ў лістападзе не чакай. Канфлікты і непаразуменні развяжуцца пасля 15.11. Можа, прымі пад свой дах ката. Калі праца не задавальняе, можаш яе змяніць 12-18.11. Запішыся да лекара, не адкладвай медабследаванняў, услухайся ў нядугі ад 13.11. (да 20.11.).

**(22.05. — 22.06.)** Някепскія перспектывы. Новыя, гарачыя знаёмствы. Але могуць прытрапіцца непрыемныя сюрпрызы; флірт можа вырвацца з-пад кантролю. Добра вырашыш адміністрацыйныя і жыллёвыя справы. Не стаўся лішне свабодна да загадаў шэфа. Будзь добра сарганізаваным, не зрабі памылкі з-за бестурботнасці. Дадатковыя «халтуры», хоць адбаўляй! 14-22.11. не памылі таблетак, не прымі лішняй або старой дозы.

**(22.06. — 23.07.)** Ад 14.11. (да 20.11.) магчымы хаос; запісвай тэрміны, не спазняйся на сустрэчы. Някепскі настрой. Памажы старэйшай асобе. Не крытыкуй і не працягвай тэм, якія могуць кончыцца спрэчкай. Пашукай цікавейшага, больш творчага занятку (10-13.11.), адкрыеш у сабе новыя таленты, здольнасці, і выкарыстаеш іх, наперакор тым, хто ў табе сумняваецца. Прытрапіцца вельмі цікавая прапанова, але будзь гнуткі, гатоў змяніць планы і дастасавацца — з 14.11. (да 20.11.). Інвестуй, спасылаючыся на сваю інтуіцыю.

**(24.07. — 23.08.)** Хуткі тэмп жыцця. Праца над сваёй пазіцыяй. Горача ў пачуццях. Не адмаўляйся ад (розных) сустрэч. Венера сцягне кагосьці з мінулага часу, хто табе вельмі падабаўся, але быў заняты. Вырывайся з хаты. Прыйдзецца табе пагадзіць пасвараную пару. Палягай на давераных сябрах. Ільвы з трэцяй дэкады няхай не саперанічаюць на дарозе.

**(24.08. — 23.09.)** Павысіш кваліфікацыі. Выкажашся большай актыўнасцю пасля 15.11. Будзеш спакойны, пагодлівы. У пары дбай і аб свае патрэбы. Дома без змен, добра, бо не любіш сюрпрызаў. Дома многа работы, але ж і хатнія маюць па дзве рукі! Грошай столькі як было, але іх пільнуй. З 14.11 (да 20.11.) вельмі зважай на зладзеяў, не насі з сабою многа грошай, глядзі за кашальком.

**(24.09. — 23.10.)** Будзеш мілавідны, ветлівы; прыемна на працы, у школе. Цудоўныя хвіліны ў пары. Калі ты адзінокі, да выбару палавінкі не спяшайся да 16.11. А 14-16.11. хтосьці з тваіх блізкіх знаёмых зменіць месца жыхарства. Больш часу аддай сябрам на супольныя выезды, гутаркі, камусьці з іх будзе патрэбная твая дапамога. На працы зробіш вялікае ўражанне, а задумы набудуць намацальны кшталт. Насі шапку.

**(24.10. — 22.11.)** Сонца пільнуе тваіх спраў. Наладзіш новыя знаёмствы, прыйдуць большыя грошы. 10-13.11. добрыя весткі аб чыімсьці здароўі. З 14.11. (да 20.11.) можа хтосьці заляцець табе ў вока, пераканаешся, ці варта працягваць знаёмства. Варта пахадзіць аднаму. Поспехі з-за зрэалізаваных праектаў. Не бяры на сябе чужых праблем. З 14.11. (да 20.11.) будзеш крыху рассеяны, адсутны духам.

**(23.11.—22.12.)** Да 14.11. узнясешся на пік папулярнасці. Пазітыўнае замяшанне. У пачуццях будзь гатовы да змен. Упарадкуй свае хатнія справы і абавязкі. На працы цяжкавата засяродзіцца ад мноста задум, нялёгка вылучыць найбольш каштоўныя. З шэфам не дыскутуй, будзь таксама гатовы на тое, што з абяцанняў можа нічога не атрымацца. Не перанатужвайся. У народжаных у другой дэкадзе або ў іх сваяка можа аднавіцца недалечаная нямогласць (14-20). З 16.11. магчымыя канфлікты з чыноўнікамі, кіраўніцтвам.

**(23.12. — 20.01.)** 10-13.11. можаш зрабіць штосьці вялікае і важнае. Будзь тактычны, ветлівы. Не забывайся аб сямейных абавязках. Працуй з калектывам, не будзь лішне крытычным. 11-13.11. прыйдзецца вырашаць нявырашанае; не бойся, пойдзе гэта табе ў карысць.

**(21.01. — 19.02.)** 12-18.11. хуткія і адважныя рашэнні аддадуць працэнты. Перагом на лепшае. Знойдзеш выхады з кожнай сітуацыі. Ненасытнасць у пачуццях. Кулінарнымі дасягненнямі можаш пахваліцца нават на фейсбуку. Возьмешся за задачы, якія прыспешаць рост тваёй кар’еры, але зоймуць многа часу. Многа энергіі, але не пераборшчвай са спортам.

**(20.02. — 21.03.)** 10-13.11. адважышся паставіць усё на адну карту. Сілы неабходныя для змагання з канкурэнцыяй ад 15.11. Але з 14.11. (да 20.11.) інтуіцыя можа цябе падвесці. Добрыя нагоды. Можа аказацца, што варта вярнуць сабе адкінутага прыхільніка. На працы горшыя дні канкурэнцыя будзе мець з 16.11. (да 22.11.). Лячы народнымі спосабамі інфекцыі (часнок, мёд, паласканне горла вадой з соллю).

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. пара года з лістападам = 13 _ 14 _ 22 _ 28 _ 27 _ 12 _;
2. шум, гул = 3 _ 4 _ 21 _ 17 _ 5 _;
3. выспа з Гаванай = 15 _ 34 _ 7 _ 16 _;
4. мноства, вялікая колькасць зваленая ў адно месца = 33 _ 31 _ 1 _ 2 _;
5. прастора з геаграфічнымі каардынатамі = 30 _ 35 _ 29 _ 25 _ 26 _;
6. горад на Дняпры між Гомелем і Мазыром = 24 _ 23 _ 9 _ 10 _ 11 _ 8 _;
7. рэгіён у межах Кітая з Лхасай = 32 _ 20 _ 18 _ 6 _ 19 _.

**(ш)**

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | 1 | 2 | 3 | 4 |
| | 5 | 6 | | | | | | |
| | | | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
| | | | | | 13 | 14 | 15 | 16 |
| | | | 17 | 18 | | 19 | 20 | 21 |
| | | | | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 |
| 27 | 28 | | | | | | | |
| | | 29 | 30 | 31 | 32 | 33 | 34 | 35 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 42 нумара**

Буш, базар, Лепель, мука, Нармандыя, паравоз, папараць, ліпа, чых, Зея, жаваранак, лань, ярмо, тумба, самакат, кісць, лава.

Рашэнне: **Лепш разумная павольнасць чым безразважлівая хуткасць**.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Анне Дэм’янюк** з Бельска-Падляшскага.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Мірaслава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.

**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.
**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 300 egz.

# Як уцалеў Амелянец

**Люба Хмара — залатая апавядальніца. Ад яе слоў вырастаюць вобразы і мяшаюцца стагоддзі, быццам ніколі нічога не змянілася ў гэтым лясным, вымеценым з жыцця закутку Белавежскай пушчы. Аповед пра цудоўнае ўцаленне пачынаецца з пажару царквы ў Амелянцы.**

Як сёння, перад вачыма явіцца пакручасты хвост чорнага дыму, які праз пашкоджаны купал узвышаецца ў марозным, лютаўсім паветры. З супрацьлеглых бакоў сяла бягуць людзі. Усюды крык, дзікі спех, лямант. Вучні *паўшэхнай* школы, у тым ліку Любін брат, насупраць забароне настаўніка падрываюцца з партаў. Ляцяць, як апараныя, паназірацць стыхію. Самыя адважныя хлапчукі прабіваюцца да мужчын, гатовых ужо ісці ў агонь ратаваць маёмасць. Але гэта небяспечны выклік. Пажар апярэдзіў моцны выбух. І зараз, калі ўрэшце здолелі адчыніць дзверы ў прытворак, з сярэдзіны бухне едкі клубок дыму. Людзі адступяць на бяспечную адлегласць. Адзін бацюшка не зважае на пагрозу. Ён рашуча ідзе ў агонь і кладзецца ля царскіх варот. Ніхто яго не спыніць, не заступіць дарогі...

На момант у Амелянцы замірае час.

Важацца словы і даспяваюць рашэнні.

Пасля некалькіх хвілін следам за свяшчэннікам ідуць мужчыны. Яны падымаюць святара, бяруць яго пад рукі і выводзяць на двор.

— Бо калісь, калі гарэла царква, бацюшка павінен быў згарэць усярэдзіне з усім прыбыткам, — паясняе Люба Хмара, — хіба што людзі ў знак знак пашаны выводзілі яго з пажару. Даравалі яму ўсе правіны.

Амелянецкая царква згарэла датла ў лютым 1925 года.

* * *

Першы раз пра цудоўнае ўцаленне царквы ў Амелянцы Люба пачула вясной 1942 года. Аднойчы ў хату зайшла *странніца*. Ці то паломнічала яна з Жыровіч у Корнін, ці з Грушкі ў Крыначку — не памятае ўжо дэталяў. Памятае аднак, што бацькі прынялі яе на начлег. Гэта было якраз перад Пасхай. Людзі шчыра пасцілі. Бульбу і кашу гатавалі ў асобнай пасудзе, каб ні адна капелька тлушчу не дасталася ў страву. Памятае, як незнаёмка папрасіла ў маці згатаваць ёй куццю з фасоляй. А пасля адмовілася есці. Раніцай толькі прыняла просвірку і запіла яе свянцонай вадой. Запамятала яшчэ, як маці паслала ёй столак, а *странніца* выкінула з-пад галавы падушку.

Раніцай, калі збіралася ў дарогу, сказала нешта такое: *Будзе вялікае ганенне на цэрквы, але ваш Амелянец уцалее. Бо там вялікая святыня!*

Тады, у пачатку нямецкай акупацыі, ніхто не разумеў, пра што гаварыла жанчына. Немцы, якія прыйшлі на месца саветаў, заахвочвалі да царквы. Але фатальны сцэнарый з часам пачаў здзяйсняцца. Акупанты спалілі цэрквы ў Белай і Вярховічах. Падобны лёс чакаў царкву ў Амелянцы...

Люба сама назірала як савецкія партызаны з атрада Каўпака абстралялі іх царкву і ледзь-ледзь не ўчынілі пажар. У той дзень разам з маці і сястрой дабіраліся ў Амелянец.

— А насустрач цягне нейкі натоўп у шынялях, з вінтоўкамі. За імі вазы з кулямётамі. Мы не ведаем, хто яны — дык ідзем. Мы да царквы — і яны да царквы. А там пустэча, народ паспеў схавацца. Адзін з гэтых вайскоўцаў зняў зброю, зайшоў усярэдзіну і паклаў на прастоле грошы. Двух іншых ускарабкаліся з кулямётам на званіцу і абстралялі дах. А мы адны ўсярэдзіне стаім — не ведаем, што рабіць. Усюды грукат, дым, перастрэлка. Ці то канец якісь будзе?



Люба Хмара





Царква ў Амелянцы

Выратаваў іх наезд немцаў і паліцаяў, якія следам партызан прымчалі з Вярховіч.

* * *

Царква, што згарэла ў 1925 годзе, нягледзячы на галечу і бяду, якая запанавала пасля бежанства, хутка адрадзілася. За атрыманую страхоўку і ахвяраванні прыхаджан была куплена ў Яблачынскім Свята-Ануфрыеўскім манастыры гатовая царква. Яе разабралі і па чыгунцы са станцыі Дубіца перавезлі да станцыі Чаромха, а адтуль на фурманках у Амелянец. Хоць перавоз адбываўся пасля Благавешчання (8 красавіка 1927 г.) на дварэ стаяў мароз. Сяляне перавозілі будынак на санях. Сама пабудова цягнулася тры гады, ды асвяцілі яе 27 верасня 1930 года на Уздзвіжанне Крыжа Гасподняга. Чын асвячэння здзейсніў благачынны Высока-Літоўскай акругі свяшчэннік Сергій Дзюкаў.

За працу і намаганні прыхаджанам і псаломшчыку Алінію Нясведаву была аб'яўлена падзяка. Тады таксама ўзнагародзілі залатым нагрудным крыжам бацюшку Кліменція Каваленку, а старасту Івана Гайдукевіча — Благаслвёнай граматай.

Пасля гадоў Люба Хмара даведалася, што іх царкоўны стараста падарыў вялікую святыню, якую даручыла яму незнаёмка ў бежанстве. Амелянчукі якраз вярталіся на радзіму. Жанчына ў капелюшы і шубе падышла да старасты і паклікала яго набок. Яна без лішніх слоў і паясненняў перадала святыню.

— Гэта была дачка купца. Яна ведала, што іх неўзабаве расстраляюць і патопчуць святыню, — апавядае Люба Хмара. — І так вось, цудоўным шляхам недзе з глыбі Расіі ў Амелянец патрапіла часцінка жыватворнага крыжа. Гэта пра яе гаварыла *странніца* ў іх хаце, каб пасля зразумелі ўцаленне ад пажару, які намерыўся завесці Каўпак са сваімі партызанамі.

* * *

Месцы, як хата 89-гадовай Любы Хмары, з іконамі і святымі кнігамі, быццам не закранулі гады Савецкага Саюза. Цягам жыцця жанчына наведала шмат манастыроў у Расіі, Украіне, Беларусі. За сваю ангажаванасць у жыццё парафіі атрымала медаль ад Маскоўскага патрыярха Кірылы...

— У людзей палацы, а ў мяне хатка-будка, — кажа. — Усё маё багацце гэта іконы. І тыя цуды, якія дазволілі ў аптымізме і веры дажыць да глыбокай старасці і быць патрэбнай людзям. Люба даглядае 92-гадовую сястру, якая не падносіцца ўжо з пасцелі...

— Ды не трэба ехаць у свет, каб адчуць і пабачыць цуды, — дадае жанчына. — Яны самі прыходзяць да нас, падымаюць на духу.

Памятае як у 1955 годзе, калі ішло ганенне на цэрквы, у Амелянцы аднавілася Распяцце. Якраз на светлым тыдні, між Вялікаднем і Праведной нядзеляй. Людзі глядзелі і не разумелі, што адбылося. Іх бацюшка прызнаўся пасля, як у ноч перад цудам, слухаў спеў анёлаў, які далятаў ад іх царквы... Нешта падобнае веяла ад пушчанскіх аповедаў Любы Хмары, дзе час і падзеі перамяшаліся ў адно ды наклікалі вобразы палаючых цэркваў і іх цудоўныя аднаўленні. У Амелянцы ганарацца яшчэ званамі, якія пасля вайны падарыў маршал Жукаў.

Тэкст і фота **Ганны КАНДРАЦЮК**

ISSN 0546-1960 45